

Хатка не з краю ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



У Адрынках ➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 40 (3151) Год LXI Беласток, 2 кастрычніка 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



■ Былыя настаўнікі белліцэя з рук бельскага старасты Славаміра Снарскага атрымалі пахвальныя граматы

# VIII З'езд выпускнікоў Бельскага белліцэя

**На VIII З'езд выпускнікоў II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, які праходзіў з 23 па 25 верасня, прыехалі асобы розных прафесій, розных узростаў і з розных мясцовасцей Падляшша і краіны. Прыцягнула іх у сваю школу ахвота спаткацца з сябрамі, настаўнікамі і прага наведаць тое месца, дзе яны вучыліся і правялі некалькі гадоў сваёй маладосці. Выпускнікі, сустрэўшыся ў вялікай школьнай сям'і, чарговы раз успаміналі супольна пражыты ў Бельскім белліцэі час, а ў ходзе справўна падрыхтаванай афіцыйнай часткі з'езда даведаліся таксама пра цяперашняе жыццё белліцэя і захапляліся выступленнямі вучняў, якія займальна выканалі беларускія песні, народныя танцы і прыгожа дэкламавалі па-беларуску.**

З'езд распачаўся 23 верасня з адкрыцця ў музеі ў бельскай ратушы выставы «Былі, ёсць, будзем» мастака, выпускніка белліцэя Міраслава Здрайкоўскага і сяброўскай сустрэчы на школьным панадворку. 24 верасня выпускнікі маліліся падчас літургіі ў Міхайлаўскай царкве, пасля якой у спартыўнай зале белліцэя прайшла афіцыйная частка з'езда. Дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк прывітаў прыбылых на з'езд выпускнікоў, запрошаных гасцей і распавёў пра школу, звяртаючы ўвагу на адукацыйныя поспехі і асаблівую атмасферу ў ліцэі.

— Прыйсці вучыцца ў белліцэй, гэта справа не для *менчакаў* (слабакоў — рэд.). Аднак вы тут у сябе і можаце развівацца ў розных напрамках. Нашы вучні штогод дабіваюцца поспехаў у прадметных алімпіядах, а наша вучаніца Уршуля Сліўко стала лаўрэатам і фіналістам ажно ў трох алімпіядах, — сказаў у пачатку свайго выступлення дырэктар Андрэй Сцепанюк, а перад афіцыйнай часткай пра арганізацыю з'езда сказаў наступнае: — Мы рады, што апрача арганізацыйнага камітэта ў справу ўключыліся настаўнікі, вучні і выпускнікі апошніх гадоў. Адчуваецца сувязь нашай вялікай школьнай супольнасці, незалежна ад узросту. Такіх з'ездаў асабліва чакаюць старэйшыя выпускнікі белліцэя, паколькі гэта час пэўнай задумы для ўсіх былых вучняў нашай школы.

Дырэктар Андрэй Сцепанюк паінфармаваў, што Радыё «Рацыя» і Праграмная рада тыднёвіка «Ніва» ўспамаглі арганізацыю з'езда. Былым настаўнікам белліцэя і найстарэйшым яго выпускнікам былі перададзены навейшыя выданні Праграмнай рады тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва»: «Бежанства 1915 года» — другое папоўненае выданне кніжкі ўспамінаў пра падзеі стогадовай даўнасці і «З Мора ў горад» — мемуары Віктара Шведа, былога вучня Бельскага белліцэя. Усе выпускнікі VIII З'езда ў сумках з лагатыпам Радыё «Рацыя» атрымалі апошнія 3 нумары нашага тыднёвіка разам з кружэлкай «Наш ліцэй» з песнямі ў выкананні белліцэістаў. Галоўны рэдактар нашага тыднёвіка Яўген Вапа, прысутны на галоўнай урачыстасці з'езда, ад імя нашай рэдакцыі звярнуўся са словамі пашаны да яго ўдзельнікаў у артыкуле «Бельскі вальс», надрукаваным перад з'ездам у 39 нумары «Нівы». У гэтым тэксце Яўген Вапа згадвае, між іншым, заслугі выпускнікоў белліцэя ў развіцці беларускага палітычна-самаўрадавага руху на Беласточчыне, успамінае, як Бельскі белліцэй праз старонкі нашага тыднёвіка станавіўся апірышчам беларускага літаратурнага руху ў Польшчы.





Уся бельская школа была святочна ўпрыгожана, асабліва яе спартыўная зала, дзе побач сцягоў Польшчы і Еўрасаюза лунаў беларускі бел-чырвона-белы сцяг. Трэба было ўкласці многа працы, каб наладзіць чарговы з'езд выпускнікоў. Арганізацыйны камітэт з'езда быў заснаваны ўжо ў верасні мінулага года. Год часу яго старшыня Анна Шкода, намеснікі Ян Апалінскі, Кацярына Ігнацюк ды іншыя члены аргкамітэта займаліся ўсімі арганізацыйнымі пытаннямі. Старшыня Анна Шкода прывітала сабраных падчас афіцыйнай часткі з'езда і пажадала прыемна правесці час у вялікай кампаніі. Урачыстая частка, падрыхтаваная Бельскім белліцэем у супрацоўніцтве з аргкамітэтам з'езда, праходзіла спраўна і без зацяжных выступленняў. Мерапрыемства ўдала вялі выпускнікі белліцэя — журналістка Радыё «Рацыя» Ганна Мордань ды журналіст і супрацоўнік Радыё Беласток Яраслаў Іванюк.

З пажаданнямі, накіраванымі да сабраных выпускнікоў, успамінамі і пахвальнымі словамі, адрасаванымі ў бок цяперашняй дзейнасці Бельскага белліцэя, выступілі мясцовыя самаўрадаўцы — староста Бельскага павета Славамір Снарскі, які курыруе звышгімназічныя школы ў павеце, у тым ліку і белліцэй, бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі і войт Бельскай гміны Раіса Раецкая (бургамістр і войт — выпускнікі белліцэя). Сярод запрошаных гасцей з'езда былі былыя настаўнікі, якія з рук бельскага старасты Славаміра Снарскага і яго памочнікаў атрымалі пахвальныя граматы. Былы дырэктар Бельскага белліцэя Аляксей Карпюк, які на гэтай пасадзе перапрацаваў 20 гадоў, ад старасты Славаміра Снарскага і віцэ-старасты Пятра Божкі (таксама выпускнікі белліцэя) атрымаў падарунак, а ад аргкамітэта з'езда — кветкі. Аляксей Карпюк, якому сёлета споўнілася 80 гадоў жыцця, успамінаў пра поспехі школы ў прадметных алімпіядах, шматлікіх конкурсах і выступіў з прапановай выдаць кніжку на тэму гісторыі Бельскага белліцэя. Звярнуўся ён з заклікам да выпускнікоў, каб напісалі паасобныя раздзелы для гэтага выдання, а Бельскаму стараству запрапанаваў прафінансаваць кніжку.

Два гады таму ў Бельскім белліцэі адзначаліся 70-я ўгодкі дзейнасці школы, якія праходзілі ў вялікай кампаніі запрошаных гасцей і выпускнікоў. У верасні 1944 года ў Бельску-Падляшскім былі адкрыты чатырохгадовая Дзяржаўная беларуская гімназія і двухгадовы Дзяржаўны беларускі ліцэй, якія паклалі пачатак дзейнасці цяперашняга II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Вучобу закончыла ў ім 5711 выпускнікоў, якія ў сваім жыцці сталі выконваць розныя прафесіі. Працуюць яны журналістамі, акцёрамі, настаўнікамі, лекарамі, выконваюць іншыя шматлікія прафесіі і заняткі. Большасць настаўнікаў Бельскага белліцэя гэта яго выпускнікі, у тым ліку і дырэктар Андрэй Сцепанюк, які раней працаваў настаўнікам беларускай мовы ў белліцэі і восем гадоў быў бургамістрам Бельска-Падляшскага.

Упаўнаважаны падляшскага ваяводы па справах нацыянальных і этнічных меншасцей Войцех Пшыгонскі пажадаў сабраным удалага адпачынку ў вялікай кампаніі выпускнікоў і зачытаў віншавальны ліст ваяводы Багдана Пашкоўскага. Быў зачытаны таксама віншавальны ліст надзвычайнага і паўнамоцнага пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы Аляксандра Аўяр'янава.

У размовах выпускнікі Бельскага белліцэя з пашанай успаміналі сваю школу, гаварылі, што правялі ў ёй лепшыя гады свайго маладога жыцця і таму так хочацца ім прыязджаць на з'езды, якія рэгулярна арганізацыйнымі камітэтамі.

Перад выпускнікамі школы і гасцямі з'езда займальна выступілі беларускія калектывы, якія дзейнічаюць у ліцэі. Белліцэісты, апранутыя ў прыгожыя народныя касцюмы, запрэзентавалі беларускія народныя танцы, выступілі з беларускімі песнямі і дэкламацыяй па-беларуску. Адна песня была на словы верша дырэктара Андрэя Сцепанюка. Цудоўна заспявалі сёлетнія выпускнікі белліцэя — удзельнікі калектыву «Вянок».

Пасля афіцыйнай часткі ўдзельнікі з'езда перайшлі на абед у рэстаран «Падлясянка». Пазней наведалі стары і новы могільнікі ў Бельску, дзе ўшанавалі памерлых настаўнікаў і выпускнікоў белліцэя, а на магілах запалілі зніччы і ўсклалі кветкі. Вечарам адбыўся баль выпускнікоў школы, падчас якога ўдзельнікі з'езда гулялі ў вялікай кампаніі.

Яшчэ 23 верасня каля ратушы ў Бельску-Падляшскім адбыўся хэпенінг, прымеркаваны да адкрыцця інспіраванай абрадавым ручніком выставы «Былі, ёсць, будзем» нашага беларускага мастака і выпускніка белліцэя Міраслава Здрайкоўскага, які штогод, між іншым, афармляе каляндар «Нівы». Падчас хэпенінгу белліцэісты пад наглядам самога мастака малявалі на паперы дэталі беларускіх ручнікоў, кветкі, раслінасць і паклалі іх вакол ратушы. У размове са мной падчас з'езда Міраслаў Здрайкоўскі пахваліў белліцэістаў за зацікаўленасць традыцыямі і ангажаванасць падчас хэпенінгу. У нядзелю, 25 верасня, адбыліся класныя сустрэчы ў школе, падчас якіх выпускнікі ўспаміналі школьнае мінулае.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



9 770546 196000



# Звар'яваны свет

Мы жывем у перакручаным, нейкім абсурдным і фантасмагарычным свеце, у эпоху нейкай татальнай дэзарыентацыі, страты сапраўдных каштоўнасцей, маральных вартасцей і звычайнай чалавечай прыстойнасці. Дастаткова адкрыць інтэрнэт і паглядзець дзясятак свежых навін, каб пераканацца ў гэтым. Яшчэ гадоў 40-50 гадоў таму тагачасны чалавек не паверыў бы, што такое можа быць рэальнасцю. Вось свежы прыклад, навіна апошніх дзён, якую перадрукоўваюць амаль усе інфармацыйныя рэсурсы. Частку праху нейкага, нібыта вядомага амерыканскага пісьменніка, Трумэна Капотэ прадалі на аўкцыёне ў Лос-Анджэлесе за 45 тысяч долараў. „У аўкцыёне бралі ўдзел людзі з Расіі, Германіі, Кітая, Паўднёвай Амерыкі і адсюль, з ЗША", — распавёў прадстаўнік аўкцыёну, адмовіўшыся назваць імя пакупніка. Калі хоць крыху задумацца: што прадаюць, што купляюць? Кучку попелу, якая засталася пасля чалавека, хай сабе і вядомага. За такія грошы, якія, прыкладам, сярэдні беларускі вясковец наўрад ці заробіць за ўсё сваё цяжкае працоўнае жыццё. І за што? Нават не за чэрап Гогаля. 45 тысяч за кучку попелу... Ды за гэтыя грошы можна ўратаваць трохчатырох цяжка хворых дзяцей, ці карміць месяц тысячу сірот! І так ва ўсім — нейкі футбаліст, нават сярэдняй рукі, дакладней нагі, за адзін сезон заробіць больш, чым рабацяга на жыццё на сваім аўтамабільным заводзе. Такая зараз і сусветная палітыка. Амаль нічога праўдзівага, ясна дэклараванага і падмацаванага канкрэтнымі паслядоўнымі дзеяннямі. Такія зараз і палітыкі. Пра таталітарныя і аўтарытарныя рэжымы тут не кажу — з імі то ўсё ясна і проста. Гутарка пра дэмакратычныя дзяржавы Захаду. Возьмем хоць бы надыходзячыя выбары прэзідэнта ЗША. Такой бруднай выбарчай кампаніі там не было хіба ніколі. Не выбары, а суцэльная вайна кампраматаў. Скажу шчыра, у цэлым мне не даспадобы рэспубліканскі кандыдат Дональд Трамп, але, падаецца, што ён гаворыць усё ж больш праўды, чым яго саперніца — дэмакратка Хілары Клінтан. Яе ўжо многа разоў злавілі на вельмі сумнеўных справах, палітычных гешэфтах, нават афёрах, але ліберальныя медыі Амерыкі і Еўропы куды больш бруду выліваюць менавіта на Трампа — з нагоды кожнага яго слова, ці ўчынку.

А праблема бежанцаў у Еўропе. Палітыка кіроўных элітаў Еўрасаюза, якую найперш вызначаюць Германія з Францыяй, завяла Стары свет у такое балота, у такі змрочны тупік, што пытанне гэтае зараз амаль невырашальнае. Куды падзець зараз гэтыя тысячы людзей, як ім дапамагчы, а галоўнае — як ўратаваць карэннае насельніцтва краін ЕС ад тэрактаў, ад фізічнага гвалту, ад разбурэння тоеснасці. Праблема гэтая дакацілася і да Беларусі, паколькі свет зараз надзвычай глабальны. Вось сядзіць зараз паўтары, а можа і дзве тысячы чачэнскіх бежанцаў у Брэсце. Польшча не прымае гэтых уцекачоў да сябе, Беларусь не ведае, што з імі рабіць. Калі іх гвалтам дэпартаваць назад у кадыраўскую Чачню — гэтых людзей чакае фізічная смерць альбо пажыццёвае рабства са здзекамі. Засяліць іх у Беларусі і працаўладкаваць таксама няма ніякай магчымасці. Таму мне вельмі спадабалася ідэя кіраўніка Венгрыі Віктара Орбана, які прапануе Еўрасаюзу пабудаваць дзе-небудзь на тэрыторыі Лівіі цэлы горад для бежанцаў, уцекачоў з розных ісламскіх краін. Ліберальныя прымітывы, канешне, адразу ўсчалі віск пра парушэнне правоў чалавека, махровы расізм і таму падобнае. А чым кепская ідэя?! Чаму б Еўрасаюзу сапраўды не збудаваць такі горад, ці некалькі гарадоў для няшчасных бежанцаў, людзей адной, ці вельмі блізкай, ментальнасці і канфесіі. Бо ўжо ўсім зразумела, што яны ніколі не інтэгруюцца ў еўрапейскіх краінах. Пабудаваць новы горад, заснаваць школы, паставіць фабрыкі, каб гэтыя людзі маглі не толькі жыць, але і працаваць. Адной зарплаты якога-небудзь Крышціяну Раналду хапіла б на цэлы пасёлак. Прынамсі, такая праграма каштавала б намнога танней, чым марныя спробы рассялення бежанцаў па краінах Еўропы. Але ж карумпаваны і звар'яваны еўрапейскі свет наўрад ці наважыцца на такое. А шкада...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Раздвоенасць



Выпадкова паглядзеў я «Googlebox» — тэлевізійную праграму жанру рэаліці-шоў, якая паказваецца тэлеканалам ТВН. Спачатку з рассеянасцю. Бо пра што ў шоў гаворка? Вось так званыя сярэднія гледачы з розных частак Польшчы — групка калег з двара, тры ветлівых адстаўнікі, мама з маміным сынком, два няясныя ў сексуальным плане хлапцы, нейкая сярэдняя сям'я з Сілезіі ці дзве сяброўкі-неразлучкі — выседжваюць у сваіх дамах увесь свой вольны час перад тэлевізарамі. Яны назіраюць розныя праграмы і па-рознаму каментуюць іх. Часта, выкарыстоўваючы тыя ж беззмястоўныя, высокаэмацыйныя выкрыкі. У той жа час, усе патэнцыйныя тэлегледачы глядзяць, няхай час ад часу або пастаянна «Googlebox», і могуць убачыць тое ж самае на экране тэлевізара, што і ўдзельнікі. Такім чынам кожны можа сабе дазволіць на такія асабістыя ды няўрымслівыя каментарыі аб бягучых падзеях паказваных па тэлебачанні. Але ці так гэта на самой справе?

Чарговы «Googlebox» назіраў я з увагай, але з узрастаючай трывогай. З'явіліся ўва мне назойлівыя пытанні: хто з'яўляецца гледачом, а хто фактычным удзельнікам шоў? Мімаволі я пачаў выглядваць схаваных камер у маім доме. У трэці раз я не дачакаўся канца праграмы. Я толькі няўпэўнены, ці я выкінуў тэлевізар праз акно і чым хутчэй пабег да сямейнага лекара з сімптомамі цяжкага псіхічнага захворвання, якое называецца раздвоеннем асобы, ці толькі заснуў перад тэлевізарам, і ў сне стаў у чарзе да акенца рэгістрацыі ў публічнай клініцы. У любым выпадку пытанне аб тым, што на самой справе з'яўляецца праекцыяй маёй асобы, а што рэальнасці, засталіся без адказу. Тым больш, што такія пытанні мой узбоўтаны розум не быў у стане паставіць. Раздваенне асобы з'яўляецца псіхічнай нямогласцю, якая складаецца на прысутнасць па меншай меры дзвюх асоб у адным чалавеку. У той жа час ні адна з гэтых асоб не ведае пра існаванне апошніх.

У клініцы выявілі, што такіх няшчасных як я ёсць больш. Я зразумеў, што мой выпадак не з'яўляецца адзінкавым. Гэта эпідэмія. Ці ўжо пандэмія. Яна падаўляе розумы ўсіх — і вялікіх, і малых. Трывожных прыкладаў я магу прывесці шмат. Бліжэйшы з іх — асоба прэзідэнта Беларусі, які афіцыйна прызнаецца да раздвоенасці ідэнтычнасці. Я скрупулёзна запісаў ягоную заяву: «Калі б пачуў пытанне аб маёй тоеснасці, і мусіў бы зрабіць выбар паміж беларускай і расійскай, я меў бы праблемы з адказам...», — прызнаўся нядаўна Аляксандр Лукашэнка. Прыклад з іншай бочкі. У апошнія дні ў Пакістан прыбылі расійскія салдаты, каб прыняць удзел у першых сумесных тактычных вучэннях з пакістанцамі. Для балансу, іншы кантынгент расійскіх салдат прымае ў той жа час удзел у вучэннях з абвешчаным ворагам Пакістана — Індыяй. Абедзве краіны маюць ядзерную зброю, абедзве знаходзяцца ў стане пастаяннай, хоць і неаб'яўленай, вайны. Або іншы прыклад, на жаль, паказваючы, што раздваенне асобы мае дачыненне і да палякаў. Як паказваюць сацыялагічныя даследаванні, польская эміграцыя ў Нямеччыне, а яе колькасць ацэньваецца ў некалькі соцень тысяч, у пераважнай большасці падтрымлівае нямецкую нацыяналістычную партыю «Альтэрнатыва для Германіі». Гэтая антыіміграцкая палітычная групоўка становіцца ўсё больш важнай у Германіі, у мінімальнай праграме патрабуе ад імігрантаў перфектыўнага ведання нямецкай мовы, а ў максімальнай — дэпартацыі з краіны ўсіх нянемцаў. І апошні прыклад. Некалькі дзён таму прэм'ер-міністр Шыдла абвясціла аб заканчэнні эпохі «залатых хлопчыкаў», якія пад эгідай кіруючай партыі Права і справядлівасць панасаджвалі прыбытковыя працоўныя месцы сваімі дружкамі і сваякамі, неабавязкова вартымі гэтых функцый. «Залатыя хлопцы» гэта між іншым нейкі віцэ-міністр Які з Міністэрства Збігнева Зёбры і адзін Місевіч, якога звалі невядома чаму міністрам — верны хаўруснік суперміністра Антоні Мацярэвіча. Але яны таксама «знаёмыя труса» Зёбры. І, вядома, сам той трус. Забылася згадаць пра «залатых дзяўчынак». Прынамсі пра некаторых з іх могуць сказаць, што яны з ёй у блізкіх добрых адносінах. Настолькі блізкіх, што цяпер пляткарацць з паняй прэм'ер-міністр, седзячы ў крэслах упраў магутных дзяржаўных кампаній. Нейкая былая настаўніца. Нейкая гмінная чыноўніца.

Як паказваюць гэтыя прыклады, раздваенне асобы становіцца шырока распаўсюджанай з'явай. Занадта паўсюднай, калі б не сказаць нармальнай. Таму зразумела, што я чакаю з нецярпеннем наступнага эпізоду «Googleboxа». Пагляджу яго, не ўключаючы тэлевізар.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Яшчэ жывыя людзі

Завяршыўся восьмы з'езд абітурыентаў Бельскага беларускага ліцэя. Мне, удзельніку ягонай афіцыйнай часткі, крыху азнаёмленым з арганізацыйнымі справамі, хочацца сказаць толькі адно: прайшоў ён у гарманічнай стыхійнасці. Была гэта радасная сяброўская сустрэча, спалучаная з эстэтычнай насычанасцю беларускасцю на ўсіх узроўнях. Гэта вельмі важна, што афіцыйшчына не стала галоўнай планкай мерапрыемства. Тое, што гэта нармальнае і здаровае свята, адчувалася ў настроі ўдзельнікаў ды ў іхніх радасных размовах і ўсмешках. Так павінны сябе паводзіць і наступныя пакаленні.

З месца сукупнасці шматпрафесійнай, беларускай інтэлігенцыі на працягу няпоўнай гадзіны перамясціўся я ў маленькую вёсачку Старына, што раскінулася ў Белавежскай пушчы на польска-беларускай мяжы. Менавіта пра гэтую ваколіцу ў сакраментальным, літаратурным сказе «Быў лес, а за лесам рускія» напіша ўраджэнец суседняй Войнаўкі Міхась Андрасюк. Праз лес у некалькіх кіламетрах распалажаная і майго дзяцінства Ітака. Старына доўгімі гадамі славілася сваім асобным лясніцтвам, якое ліквідавалася ў пасляваенны перыяд, але на карце Белавежскай пушчы знаходзіцца выдзелены Старынаўскі запаведнік, як хвала і слава мінуўшчыны.

Старына і ўсе навакольныя вёскі сталі ахвярамі вялікай палітыкі і перападзелу Усходняй Еўропы ялцінска-патсдамскімі пагадненнямі 1945 года. Раптам перад нашымі продкамі выраслі мяжа, жалезная заслона і калючы дрот, а затым сцяна лесу. І наш эканамічна-культурны напрамак узаемаміграцыйных працэсаў пушчанскіх людзей адрэзаўся ўжывую. А, вядома ж, калі пакаленням леснікоў і браканьераў, гаёвых і вазакоў адрэзвалася адно лёгкае, то іх жыццёвы выбар і вектар абазначаў толькі самоту, павольны скон і абязлюдзенне. З пяшчугі — так у нас гаварылася на самую ліхую зямельку — разбагацець не далося. А ў дзень араць, каб потым кожнай ночы пільнаваць сваіх некалькіх загонаў бульбы, аўса і жыта перад дзікамі і аленямі, не пад сілу было нават моцным лясным людзям.

Пра пушчанскія пяскі, сосны і цяпло пісаў у сваіх мініяцюрна-літаратурных памкненнях Юрка Трачук, калі трапіў на нейкі час у старынаўскую школу папрацаваць настаўнікам. Была гэта школа-тысячагодка, мураваная, прасторная, эфектоўная, са школьнай спортпляцоўкай і забетанаваным супрацьпажарным басейнам, які для маладых выконваў, зразумела, іншую ролю. Потым школа запуставала. То ў ёй пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на некалькіх заездах дзеткі з Беларусі лячыліся зёлкамі і водарам пушчанскіх сосен. Таксама і нйуская «Сустрэчы „Зоркі"» скарысталіся яе таямнічасцю і прыгажосцю пушчанскага свету.

А потым, як адну з першых на Беласточчыне, замянілі школу на дом для састарэлых, кіраваны Польскім камітэтам сацыяльнай дапамогі з сядзібай у Варшаве. І ў пушчы ў сувязі з гэтым з'явіліся пажылыя хворыя людзі з усёй Польшчы, якім тут прыходзіцца адыходзіць на вечны спачын. Вельмі часта не дадзена ім вярнуцца ў родныя мясціны і трапляюць на могілкі ў Вярстоку. Зараз у будынку былой школы пражывае пад дваццаць асоб. З небагатымі пенсіямі трапляюць яны менавіта на канец свету. Месцы ў добрых дамах для састарэлых часам каштуюць столькі грошай, што і дзеці мусяць добра зарабляць, каб аплаціць кошт пабыўкі свайго блізкага. Але гэта зусім іншая, балючая тэма, пра якую пастараемся неўзабаве напісаць, атрымаўшы больш падрабязных інфармацый.

Чаму гэтым разам засяродзіўся я менавіта на Старыне і мясцовай школе? Бо перад ёю ў мінулую суботу, 24 верасня, адбыўся апошні ў гэтым годзе фэст з цыкла «І тут жывуць людзі», арганізаваны Беларускім музеем у Гайнаўцы. На старонках «Нівы» ад гадоў мы даволі падрабязна асвятляем геаграфію і гісторыю гэтых фэстаў. Праз тыдзень дакладна і яго апішам. А са свайго боку хачу толькі сказаць, што пакуль яшчэ жывыя людзі, то павінны яны сустракацца і атрымліваць радасць і асалоду ад такіх спатканняў. Для мяне суботнія сустрэчы — і выпускнікоў Бельскага белліцэя, і тая ў Старыне — вельмі важныя ў эмацыянальным плане. Добра даюць адчуць і ўявіць дарогі беларускага лёсу на Беласточчыне — дзядоў, бацькоў, нас.

**Яўген ВАПА**

# Хатка не з краю



**У мінулагоднім конкурсе, арганізаваным Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства і Музеем сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы на найлепш захаваны помнік драўлянай архітэктуры трэцяе месца здабыла хата Славаміра і Малгажаты Рынкоўскіх, якія перасяліліся ў Мокрае Бельскай гміны з падваршаўскіх Ламянак. «Мы, хоць варшавякі, але ўжо тутэйшыя», — з гонарам кажа спадар Славамір, які сёння, на беларускім фэсце, накульгвае. «О, пан Славік то той пан з кулямі», — паказваюць гледачы на мужчыну, які на лавачцы слухае беларускіх песень выканаўцаў, запрошаных у Мокрае на 51 фэст «І тут жывуць людзі».**

— А так, «тут жывуць людзі», — даказвае пасля на вуліцы ягоная жонка Малгажата. — Так прыемна паслухаць і пабачыць тое культурнае мерапрыемства, паглядзець выставу ручнікоў і здымкаў пакаленняў макран. — Мы нетутэйшыя, але ўжо ведаем, што наша мясцовасць вельмі культурная, маем двое сучасных пісьменнікаў, людзі ветлівыя, акуратныя...

— Ваша хатка летась атрымала ўзнагароду, дом у Мокрым з нумарам дваццаць чатыры. — прыгадваю па-беларуску. — Вы тутэйшыя, ці прыехалі адкульсці.

— Так, дваццаць чатыры, — адказвае з усмешкай спадар Славамір па-польску. Ужо не трэба яму перакладваць тутэйшай гаворкі — усё разумее. — Мы цалкам выпадкова сюды тапілі.

— Хацелі мы купіць дом у вёсцы, — дадае Малгажата. — Шукалі хату з гаспадаркай. Знайшлі, адрэстаўравалі...

— І так жывем тут спакойна, — усміхаецца Славамір.

— Дом належаў да Нікіцюкоў. Вольгі і Лукаша. Будаваў яго яшчэ іхні бацька. Гэта адзін са старэйшых дамоў у вёсцы. Чаму мы яго купілі? Гэта была такая «вішанька на торце». Уласнікі хаты — Вольга і Лукаш, а нашы дзеці так называюцца.

— Мы тае хаты не бачылі. Купілі яе «ў цёмна», — дадае Славамір. — Але калі ўбачылі гэты дом, дык за галовы схапіліся. Пару гадоў збіраліся мы з сіламі, каб яго адрэстаўраваць. Пачалі цікавіцца і самой вёскай. Як даведаліся, першыя запісы пра Мокрае — здаецца з 1450-х гадоў. Яно ляжала на каралеўскім шляху. На пачатку і на канцы вёскі былі два заезды, дзе можна было памяняць коней.

— Гэта былі корчмы, — уключаецца сусед Мірак Пракапюк, які з сабачкам і Рынкоўскімі прахаджваецца па вёсцы. — Там можна было і паесці падарожнікам.

— Мы маем шчасце, што жывуць тут яшчэ людзі, якія гэта памятаюць, маюць дакументы, прытым нямала. Калі мы сюды першы раз заехалі, разгледзеліся, якая хата прадаецца, і ўбачылі тую хату Лукаша і Вольгі... Якая гэта руіна была! Хацелі мы яе аднавіць такой, як была. Не маглі знайсці прадуцэнта такіх колішніх драўляных, скрынкавых акон. Аднаўлялі мы хату з поўнай свядомасцю, што не можам яе папсаваць. Варта было не для таго, што наша старанне было ўзнагароджанае. Гэта і сатысфакцыя — задавальненне. Калі мы толькі прыехалі — для ўсіх былі мы чужыя. «Чужыя, будуць развальваць!»

— З нашых ваколіц толькі мы былі летась узнагароджаны, і былі два вылучэнні, — удакладняе спадарыня Малгажата. — Гэта ж пахвала і для ўсёй Бельскай гміны. Было нам вельмі міла, тым больш, калі камісія прыйшла да нашага дому, муж быў адзін, нічога ў сярэдзіне хаты яшчэ не зрабіў.





— Адразу мы рашылі, што мы хату «адлюструем». Але калі было ўсё адкрыта з-пад усіх шпалер, аказалася, што стан хаты быў крытычны. Дах быў дзіравы, усё было пазаліванае. Але далі мы рады. Чатыры гады мы рыхтаваліся, што з гэтым рабіць. Я гробся ў інтэрнэце, чытаў кнігі, каб пабачыць, як такія хаты выглядалі, каб яе аднавіць такой як была, каб яе аздобіць невыпадкова.

— Так, мы хацелі захаваць характар гэтага дома. Не маглі ж паставіць тут нейкай «гуральскай хаты» ці павыкідваць сабранае гаспадарамі.

— А людзі многа выкідвалі. Разбівалі печы. Выкідвалі ходнікі. Калі мы ўратавалі гэты дом, прыходзілі да нас проста працэсіі, каб паглядзець. Людзі ўбачылі, што так можна зрабіць, каб захаваць як найбліжэй арыгіналу, а ў сярэдзіне жыць у поўным камфорце. І нічога не разбураць. І раптам самі перасталі бурыць-раскідваць. Пачалі будаваць, прыгожа абшываць. І гэта дае нам вялікае задавальненне. І ўрэшце нас апрабавалі. Адобрылі як суседзяў. Кажуць «варшавякі», бо так карацей назваць. Кожны мае мянушку, часам з дзеда-прадзеда, па-вясковаму.

Найбольшае задавальненне мелі спадарства Рынкоўскія, калі ў Мокрае прыехаў чалавек, які нарадзіўся ў гэтай хаце.

— Ён жыве ў Сілезіі. Можна сказаць, што ўцёк адсюль, калі яму было шаснаццаць гадоў. Не хацеў у полі працаваць, бо цяжкая работа была, а бацькі патрабавальныя. Уцёк з бацькаўшчыны. Прыехаў. Глядзім — хтосьці па ўчастку ходзіць. Заначаваў нават у гэтым месцы. Многа расказаў мне пра гэты дом, пра вёску. Такі ж гаваркі, як і я, — смяецца Славамір.

— Вельмі ён усхваляваўся, — дадае Малгажата, — што тут усё стаіць, што не развалена. Гэта сын тых уласнікаў, Лукаша і Вольгі, Анатоль Нікіцюк.

— У Мокрым мужчыны большасць гэта Толікі. Тут такі Толік жыве, вось там, яго вятрак стаіць. Тут ён усё ведае, усё памятае. Ён таксама называецца Анатоль Нікіцюк. Вельмі спраўна гаворыць на чатырох мовах — па-беларуску, па-ўкраінску, па-руску і па-польску. Таксама прыгожа спявае. І ёсць яшчэ старэйшы чалавек, у якога ёсць усе дакументы з гэтай вёскі... Памаленьку знаёмімся з усімі. І маем двое пісьменнікаў. Басі Гаральчук вершы былі змешчаны на паказе здымкаў з нашай вёскі. І мы з ёю таксам гаварылі тры гады таму: што зрабіць у нашай вёсцы, каб яе разбудзіць, каб пачала жыць. Шкада такой прыгожай гісторыі, каб пра яе маўчалі. І вось бачыце — удаецца! Разварушылася. Гэта таксам Басіна заслуга, вытоптвала сцежкі, каб штосьці сарганізаваць. І Юрка Баена, што жыве на пачатку Мокрага. Ці то на канцы? Нумарацыя дамоў зменена. Мы знайшлі дакументы ў хаце, і пацвярджэнне прапіскі было з саракавых гадоў, але быў іншы нумар. Толік сказаў, што змянілі нумары дамоў пасля камасацыі грунтаў, пасля «шахаўніцы»-цераспалосіцы.

— Аказалася, што на нашай гаспадарцы стаяла стадола суседа, што меў хату насупраць, — прыгадвае Малгажата. — Пасля камасацыі ўсё тут падзялілася нанова.

— Робім цяпер інтэрнэтную старонку «Miłośnicy Mokrego». Прыедзе мой сябра, які на гэтым знаецца і зробім такую «буру мазгоў». Будзем з аднаго боку шукаць такіх людзей, якія змогуць «заяснаваць», са сваімі ўмеласцямі і талентамі, парадамі.

Да дома нумар 24 падыходзіць маладая пара.

— А мы ў мінулым годзе бачыліся ў Цеханоўцы! Наша хатка з Шастал была вылучана, а яшчэ з Катлоў дом таксама атрымаў вылучэнне

— Вось дык мы зрабілі сюрпрыз нашай пані войт! — смяецца гаспадар. — Наш солтыс паявіўся быў і кажа мне: «Ці ты не супраць, што мы тваю хату заявілі да конкурсу?». Заяўляй. І пайшоў. О, тут маленькая кухня і каморка ў выглядзе літары L. Мы хацелі мець большую кухню, дык перарабілі. Печы пакінулі. Хата звонку не выглядае на вялікую, унутры — шэсцьдзясят пару метраў, і на падстрэшку таксама ёсць месца — дзеці абяцалі гэтым заняцца. Вельмі добра грэе сцяноўка. Скрыню для сядзення зрабілі пры цёплай печы...

Наўкол хаты буяюць кветкі, званыя «космас».

— Іх не трэба садзіць, яны самі растуць год за годам, — кажа спадарыня Малгажата. — У нас на космас кажуць «варшавянка». Можа, гэта патомкі тых, што вырошчвала яшчэ Вольга Нікіцюк? Яшчэ растуць у нас кветкі «дзівачкі». Квітнеюць яны папоўдні і тады, калі хмарна. Калі іншыя кветкі затуляюць суквецці, яны адкрываюцца.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Клопат з дэмаграфіяй

Зараз Нараўчанская гміна налічвае 3 800 жыхароў. Найбольшая вёска — Нараўка. У гміне ёсць іншыя даволі вялікія вёскі: Семяноўка, Старое Ляўкова, Новае Ляўкова, Скупава, Міклашэва, Плянта, Тарнопаль, Лешукі і Альхоўка ды меншыя ад іх Ахрымы, Свінароі, Заблотчына, Стачок, Старое Масева, Гушчэвіна, Баб'я Гара, Міхнаўка, Лесна, Новая Лука, Янова, Новае Масева, Падляўкова, Грушкі, Гарадзіска, Пасекі і Капітаншчына. У некаторых з іх лік жыхароў павялічваецца, а ў іншых змяншаецца. Хутчэй за ўсё тое другое. Сёлета ў Новым Ляўкове памерлі тры мужчыны ў сярэднім узросце. Ажаніўся ўсяго адзін кавалер. Ён тут прапісаны і мае свой кавалак зямлі, які загарадзіў і на якім намераны пасадзіць лес, але жыве і працуе ў Беластоку. Яго жонка таксама. Адна пажылая самотная ўдава прадае мураваны дом у Новым Ляўкове і ўжо пераехала ў Беласток, дзе будзе жыць-дажываць.

Ёсць і аптымістычныя факты. Можна добра, згодна і шчасліва жыць у пары. У верасні гэтага года дзесяць пар урачыста святкавала 50-годдзе шлюбнага жыцця. З гэтай надоды медалі ад прэзідэнта РП атрымалі Ян і Марыя Адамовічы са Скупава, Яўген і Марыя Харкевічы ды Юрый і Ніна Кунцэвічы з Лешукоў, Ян і Зофія Каліноўскія з Нараўкі, Васіль і Марыя Мацкевічы з Баравых, Эдвард і Яніна Малышка з Леснай, Ян і Ірэна Скепкі з Гушчэвіны, Ян і Ірэна Скепкі з Семяноўкі, Ян і Ірэна Спікоўскія з Забрадоў ды Юзэф і Ядвіга Сватко з Тарнопаля. Яны — узор для маладых. Каб такіх пар было больш, менш было б разводаў.

Бывае так, што, напрыклад, новаляўковец зарэгістраваны ў Новым Ляўкове, а пражывае ён у Новінах, або жыхарка Новага Ляўкова ў сваёй вёсцы рэдка калі бывае, бо яна пастаянна вядзе сельскую гаспадарку на сваіх гектарах на калёніі ў Старым Ляўкове. Абедзве гэтыя асобы маюць свае дамы ў Новым Ляўкове, але іх тут не чакай, іх няма.

Адна жанчына пайшла на пенсію ў Беластокуі прыехала на пастаяннае жыхарстваў бацькоўскі дом і двор на калёніі ў Новым Ляўкове. Яна жыве месяц-два і чамусьці не прапісваецца. Дзве асобы ад 3-4 гадоў жывуць у Новым Ляўкове, але яны яшчэ дагэтуль прапісаныя ў Гайнаўцы. Ёсць такі выпадак: цэлая сям'я пераехала на пастаяннае жыхарства ў Новае Ляўкова з Ахрымоў, тут купілі сабе дом і зямлю, але не перарэгістроўваюцца. Чаму гэтак зараз можна? Едзь сабе куды хочаш і жыві сабе дзе хочаш без прапіскі.

А як палічыць маладых і ў сярэдніх гадах жыхароў у Новым Ляўкове? Я, солтыс гэтае вёскі, маю з гэтым немалы клопат. Едуць яны ў пошуках працы ў розныя еўрапейскія краіны, між іншым, у Бельгію, Германію, Швецыю і Фінляндыю. Хто вяртаецца адтуль, а хто не. А яны тут жа прапісаныя. Некаторыя пакінулі свае дамы, нават нічога не сказаўшы суседзям. Гэтак робяць пераважна рана асірацелыя ўжо дарослыя дзеці або маладыя ўдовы. Ат там, можа хутка вярнуся. І гэта не адзінкі. Лічу, лічу і далічыцца цяжка, колькі жыхароў у цяперашняй маёй вёсцы. Як не той, то нехта іншы недзе выехаў ды прапаў без весткі і невядома на колькі часу. Вось так цяпер дзеецца.

# У Дубіцкай гміне

Зараз у Дубіцкай гміне Гайнаўскага павета пражывае 1 630 чалавек. У ёй 28 мясцовасцей. Да найбольшых вёсак належаць Грабавец (налічвае больш жыхароў, чымсьці Дубічы-Царкоўныя), Ягаднікі, Тафілаўцы, Стары Корнін, Карыцкіс, Істок, Чахі-Арлянскія, Вітава, Вярсток, Елянка і Войнаўка.

У гміне шмат пажылых людзей. Удоў значна больш, чымсьці ўдаўцоў. Сёлета дзевяць пар святкавала 50-годдзе шлюбнага сужыцця. Медалі ад прэзідэнта РП атрымалі Яўгенія і Канстанцін Чыквіны ды Надзея і Ян Герасімюкі з Чахоў-Арлянскіх, Ніна і Мікалай Данілюкі з Грабаўца, Марыя і Віктар Чыквіны, Марыя і Андрэй Яканюкі, Ніна і Віктар Леанюкі ды Анна і Мікалай Панфілюкі — усе яны з Дубіч-Царкоўных, Таццяна і Мікалай Масальскія з Тафілаўцаў ды Марыя і Ян Кэндысь з Пяскаў. Усіх Юбіляраў сардэчна віншуем.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



# Раманаўскі юбілей



**«Рэдка каторая вёска святкуе дзень надання назвы, хутчэй за ўсё святкуецца дзень першай пісьмовай згадкі аб вёсцы», — між іншым такімі словамі, аўтарства Дарафея Фіёніка, можна ахарактарызаваць спецыфіку свята, якое адзначылі жыхары вёскі Раманаўка (што на Сямятыччыне). 18 верасня гэтае сяло ўрачыста адсвяткавала 103 гады з дня прысваення яму назвы. Гэтае асаблівае свята склалі рэлігійны і свецкі элементы. Да наладжання яго спрычыніліся Музей малой бацькаўшчыны ў Студзіводах, Праваслаўная парафія св. апосталаў Пятра і Паўла ў Сямятычах ды солтыс Раманаўкі Іаанна Вардэцкая.**

Добрую атмасферу 103-й гадавіны надання назвы вёсцы Раманаўка весцілa ўжо самое надвор'е — сонца ў гэты дзень не шкадавала сваіх прамянёў ды цеплыні. Месца сустрэчы сабраных дзеля адзначэння ўгодкаў было невыпадковае: пры пабудаванай у 2013 годзе, у сотую гадавіну прысваення назвы Раманаўцы, каплічцы з іконай св. Спаса. Менавіта там прайшоў малебен за мірнае і паспяховае існаванне вёскі і яе жыхароў. Узначальваў яго настаяцель Петрапаўлаўскага прыхода ў Сямятычах а. Андрэй Якімюк у саслужэнні вікарных а. Іаана Аўксецюка і а. Рафала Ваўранюка, а таксама вікарнага прыхода ў Падбеллі а. Марка Якімюка. У час прапаведзі а. Андрэй Якімюк звярнуўся да абшчыны беларускіх вернікаў з абодвух бакоў мяжы. Прыгадаў таксама перыяд ІІ Рэчы Паспалітай, калі праваслаўныя вернікі Беласточчыны прыналежалі да адной Гродзенскай епархіі.

Сярод прыбылых на ўрачыстасць можна было прыкмеціць як старэйшых жыхароў вёскі і яе выхадцаў, так і моладзь — мясцовую, ды тую, якая магчыма штодзень, жывучы ў горадзе, у гэты дзень вырашыла супольна са сваімі бацькамі адзначыць гадавіну іхняга роднага сяла.

— Несумненна, Раманаўка гэта месца, якое не дзеліць, а аб'ядноўвае, — лічыць солтыс вёскі Іаанна Вардэцкая. — У нашай вёсцы ёсць розныя сем'і: праваслаўныя, каталіцкія ды г.зв. мешаныя, дзе ў сужонстве ёсць вернікі як адной, так і другой канфесіі. Трэба ў гэтым месцы сказаць, што прадстаўнікі ўсіх тыпаў сем'яў жывуць з сабою ў згодзе, гэта своеасаблівае сужыццё. І што цікавае, хапае тут і дзяцей, доказам чаму з'яўляецца аўтобус, які іх давозіць у школу, ды ў якім багата гэтых як маладых людзей. Спецыфікай вёскі з'яўляецца таксама яе прасторавая планіроўка — у Раманаўцы ёсць пяць канцоў сяла.

— Раманаўка гэта адметная вёска, на што ўплываюць хаця б абставіны, падчас якіх яна паўставала, — сцвярджае заснавальнік Музея малой бацькаўшчыны Дарафей Фіёнік. — У параўнанні да іншых вёсак Беласточчыны Раманаўка заснавана адносна нядаўна, бо на пераломе XIX і XX стагоддзяў. Што таксама цікавае, гэтае сяло было заселенае перасяленцамі з розных вёсак Берасцейскага, Бельскага і Пружанскага паветаў, якія пераехалі сюды больш за сто гадоў таму. Людзі, якія сёння тут жывуць, гэта ў многіх выпадках нашчадкі даўніх заснавальнікаў родам са згаданых раёнаў. Раманаўка доўгі час не была зінтэграваная. Якраз дзякуючы такім нагодам, як гадавіна надання вёсцы назвы, тая ж інтэграцыя наступае. Сяло, раскінутае на адлегласці 5-6 кіламетраў, становіцца адзінай супольнасцю. З самага пачатку звычаю святкавання спадарожнічалі спрыяльныя атмасферныя ўмовы, у час якіх дастаткова сонца. На мой погляд можна гэта лічыць эфектам благаслаўлення сямятыцкага біскупа Георгія, які ў 2013 годзе, у час святкавання сотай гадавіны надання назвы вёсцы, палічыў, што варта, каб кожная трэцяя нядзеля верасня была святам Раманаўкі.

— З самага пачатку святкавання юбілею нашай вёскі мы штогод тут сустракаемся. Не толькі мы — людзі, якія тут жывуць, або якія з'яўляюцца выхадцамі з Раманаўкі. Сюды прыязджаюць таксама госці, якіх проста цікавіць тая асаблівая нагода, для якой мы тут збіраемся, — кажа жыхарка Яўгенія Боцюк. — Такім чынам стварылася традыцыя, да якой мы ставімся сур'ёзна і якую мы, жыхары Раманаўкі, працягваем. У тую ж трэцюю нядзелю верасня адчуваецца атмасфера вялікага свята: людзі з нашага сяла глядзяць за парадкам у каплічцы, адбываюцца падрыхтоўкі ў нашай мясцовай святліцы, у якой збіраемся пасля ўрачыстасцей. Важнасць гэтага свята можна адчуць таксама на аснове таго, як будавалася наша Спасаўская каплічка. Пры пабудове аб'екта ангажаваны былі людзі з нашага сяла. Яны разам хацелі стварыць нешта, што будзе нагадваць нам аб гадавіне надання назвы вёсцы і будзе чымсьці супольным. Словы падзякі кіруем у бок Дарафея Фіёніка, які выступіў ініцыятарам пабудовы нашага сакральнага аб'екта.

— Я, праўду кажучы, тут не жыву ўжо ад 50-ці гадоў, бо пражываю ў недалёкіх Сямятычах, але заўжды буду адчуваць сябе жыхарам Раманаўкі — маёй роднай вёскі, — кажа Іосіф Путко. — Якраз тут я пражыў перыяд свайго дзяцінства і маладосці.

— Ужо трэці раз запар маем тую прыемную нагоду сустрэцца пры нашай прыгожай каплічцы, — кажа жыхар Васіль Боцюк. — Прыемна жыць у сяле, якое прыцягвае не толькі карэнных жыхароў і выхадцаў, але таксама тых, якіх проста цікавіць гісторыя сяла ды сама ўрачыстасць.

Пасля завяршэння малітоўнай часткі святкаванняў пад капліцай св. Спаса большая частка прысутных падалася ў напрамку мясцовай святліцы. Там плошча перад аб'ектам напоўнілася людзьмі, ахвотнымі паслухаць гукі родных рытмаў. Узгаданне «роднасці» тут невыпадковае, таму што перад гледачамі з Раманаўкі і ваколіц запрэзентаваліся беларускія калектывы з Беласточчыны і беларускага Палесся. Сярод выканаўцаў былі «Хмелеўскія валацугі» з Хмелева, што на Берасцейшчыне:

— Кожны раз, калі прыязджаем на Беласточчыну, адчуваем сябе як быццам мы прыехалі дамоў. Зразумела, гэта таму, што мы бачым тут, гэтым разам у Раманаўцы, сваіх братоў-беларусаў, якія проста жывуць на другім баку мяжы, — кажа сябра калектыву Тацяна Грыцук. — Народныя песні, якія мы тут прэзентуем, паходзяць з нашага Жабінкаўскага раёна, але таксама тыя, якія спяваюць у астатніх частках Берасцейшчыны. Ёсць тут яшчэ і творы, да якіх мы самі напісалі словы. Агулам вялікая частка песень утрыманая ў сучасных аранжыроўках. Прыкладныя творы, якія мы падрыхтавалі для жыхароў Раманаўкі, гэта «А ў Марусі хата на памосце», «Пакахала дзедуся». Ёсць таксама песня, якая сатырычным чынам каментуе сёлетнюю дэнамінацыю грошай у Беларусі. Усе песні выконваем на палескай гаворцы, характэрнай нашаму раёну.

Сярод музычных выканаўцаў на сцэне перад святліцай выступілі таксама «Маланка» з Бельска-Падляшскага ды «Жэмэрва» са Студзіводаў. Былі і мясцовыя музычныя прадстаўніцы — калектыў «Аморфас» з Сямятыч:

— У мінулым годзе такі вераснёвы дзень праводзіла я ў Раманаўцы, адзначаючы свята вёскі з яе жыхарамі, будучы проста назіральніцай гэтай падзеі. Зараз разам з калектывам маю тую асаблівую нагоду запрэзентавацца тут з музычнага боку, — кажа мастацкая кіраўнік калектыву Галена Шчыгал. — Напэўна выступ у час такой падзеі як гадавіна надання назвы Раманаўцы ёсць важным, але адначасова мушу сцвердзіць, што мы сур'ёзна падыходзім да кожнага нашага выступлення. Мы выконвалі беларускія фальклорныя і сучасныя песні, сярод якіх і тая на словы верша Міры Лукшы «Малая айчына, падляшскі наш край».

Пасля завяршэння музычных выступленняў частка публікі засталася ў мясцовай святліцы, дзе разам з калектывамі спажывала падрыхтаваную мясцовымі жыхаркамі вячэру. Асаблівая гасціннасць раманаўцаў сустрэла там таксама гасцей з-па-за вёскі — ніхто не вяртаўся дамоў галодным.

**Тэкст і фота Мацея РАЦІНЕЎСКАГА**

# Неспакойны позірк на Усход

**22 і 23 верасня адбыўся ў Беластоку III Усходні гаспадарчы кангрэс. Усход у назве мерапрыемства абазначае і паласу ўсходніх ваяводстваў Польшчы, і яе найбліжэйшых усходніх гаспадарчых партнёраў. Удзел у сёлетнім кангрэсе прынялі польскія палітыкі, вучоныя і гаспадарчыя дзеячы ды прадстаўнікі некаторых усходнееўрапейскіх краін: Беларусі, Літвы, Грузіі і Малдовы. І прадстаўнікі далёкага Кітая.**

Уводная частка кангрэса ў яго першы дзень праходзіла ў цені лозунга „Неспакойны позірк на Усход". Гэты неспакой наклікаюць дачыненні з Расіяй, галоўным чынам эканамічныя. Хаця ў выступленнях прамоўцаў згадваліся і ўзаемныя не надта зручныя дзеянні. Для прыкладу, літоўскі бок пакрытыкаваў Беларусь за Астравецкую АЭС, якая будуецца паблізу літоўскай граніцы і беларускі бок не прымае засцярог суседзяў адносна гэтай інвестыцыі.

Старшыня беларускай Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Уладзімір Карагін адказваў: «Наш міністр замежных спраў Уладзімір Макей гатовы да размоў па гэтай тэме. І галоўнае — гэты праект павінен быць бяспечны. Мы ў Беларусі разглядаемся за энергетычнай незалежнасцю ад Расіі. Нам трэба па меры магчымасцей адмовіцца ад расійскіх газу і нафты, якія нам прадаюцца па цэнах вышэйшых чым у Расіі. Расія быццам наш харошы брат, але не выконвае ранейшых інтэграцыйных дамоўленасцей, калі былі абяцанні, што цэны будуць аднолькавыя. Цэны нашых прадуктаў уключаюць таксама энергетычны кампанент, а калі ён у два разы даражэйшы чым на расійскім рынку, тады і наша вытворчасць даражэйшая і неканкурэнтная. І паўстаюць праблемы. Безумоўна, нас звязвае энергетыка і тут вялікая роля бізнесу і ўрадаў дзеля таго, каб стварыць такія энергетычныя схемы, якія не стварылі б праблем».

Невыкананне прынятых Расіяй дагаворных абавязацельстваў падкрэсліў таксама прадстаўнік Грузіі. У 2006 годзе Расія практычна ўвяла эмбарга на грузінскія прадукты: віно і мінеральныя воды. Гэта быў удар па работніках сельгасвытворчага сектара і Грузіі давялося дыверсіфікаваць іх экспарт і шукаць новых рынкаў збыту так у Еўропе, як і на Усходзе. І дыверсіфікацыя з'яўляецца лагічным выхадам, калі маецца дачыненне з Расіяй. Бо калі Расія будзе адзіным партнёрам у нейкай галіне бізнесу, гэта ўразлівая сітуацыя, калі Расія можа закрыць доступ да свайго рынку; і адразу ўзнікаюць праблемы. Нейкі чыноўнік з Расіі можа аб'явіць, што яму непатрэбныя грузінскія вырабы...

Польскія палітыкі заўважылі, што ўкраінскія ваенныя прадпрыемствы не спынілі паставак свайго ўзбраення ў Расію, нягледзячы на збройны ўкраінска-расійскі канфлікт, бо трэба было б там спыніць вытворчасць. Палітыкі ўзводзяць бар'еры, а прадпрымальнікі іх абмінаюць. Яшчэ нядаўна галоўнымі пастаўшчыкамі расійскага вугалю на Украіну былі польскія прадпрымальнікі. Ад ізаляванай Расіі дарма спадзявацца нейкіх станоўчых змен, таму ўсё ж такі нельга парываць бізнесавых сувязей з Расіяй, бо гэта такі фундамент, які ўплывае на прымаючых рашэнні палітыкаў, якія мусяць прымаць пад увагу і эканамічныя рэаліі. Ізаляваная Расія значна больш небяспечная ад тае, якая некаторыя эканамічныя сувязі ўтрымлівае. Прыкладам, нягледзячы на рэстрыкцыі, наш гандаль з Расіяй адбываўся паспяхова ў тых галінах, якіх рэстрыкцыі не ахоплівалі, але затое зусім абваліўся гандаль з Украінай, беручы пад увагу высокую фінансавую рызыку і высокі кошт страхоўкі таго абмену.

Гэтаксама і справа маецца з Малдовай, якая пастаўляла шмат сваіх прадуктаў у Расію, а эмбарга прынесла значны ўдар па эканоміцы менавіта Малдовы, бо, для прыкладу, замест малдоўскага ці грузінскага віна Расія завозіць віно з Паўднёвай Амерыкі і Афрыкі.



Карагін: «Я хацеў бы, каб палітыкі, калі не могуць рашыць нейкіх праблем у палітычным парадку, не перакладвалі гэтага на бізнес. Любыя палітычныя рашэнні маюць эканамічныя паслядоўнасці. Я быў нядаўна на з'ездзе расійскіх арганізацый малога і сярэдняга бізнесу. У зале было некалькі тысяч чалавек. Яны прасілі Пуціна, каб не згаджаўся на адмену санкцый. Да гэтай пары тавары, прапанаваныя малым і сярэднім бізнесам Расіі, не мелі доступу ў тамашнія супермаркеты. Алігархічна-карупцыйныя структуры Расіі не дазвалялі малому бізнесу пастаўляць свае прадукты і малыя расійскія фірмы не былі ў Расіі патрэбнымі. А цяпер вось закладзена там тысячы новых садоў, соткі новых ферм. Паспрыяў гэтаму і выкліканы эмбаргам рост цэн прадуктаў на расійскім рынку. Мы ведаем, што за два-тры гады беларускі бізнес будзе сур'ёзна прыгнечаны, таму што расійскі бізнес нарошчвае свой патэнцыял. Наш тавараабарот з Расіяй складае 38% і столькі ж з Еўропай. Мы ўзбуйнілі фізічны аб'ём паставак у Расію на 2%, а атрымалі за гэта на 30% менш грошай; а гэта таму, што абвалілася расійская валюта. Мы працуем больш, а атрымліваем менш. І вось Беларусь зараз намагаецца ладзіць бізнесавыя кантакты і з Еўропай, і з Амерыкай, а асабліва з Польшчай, якая з'яўляецца нашым найбліжэйшым суседам ды заадно бізнесавым настаўнікам».

Гэтаксама і Грузія, якая яшчэ не так даўно амаль поўнасцю залежала ад паставак энерганосьбітаў з Расіі, зараз з гэтага боку незалежная. А гэта істотная справа, бо дазваляе не аглядацца на расійскія капрызы, якія маглі б прывесці краіну да энергетычнага калапсу.

Дыверсіфікацыя паставак энерганосьбітаў таксама сур'ёзна пастаўлена ў Польшчы. Калі ідзе пра прыродны газ, то ўжо прадбачана магчымая змена напрамку яго паставак: замест з Усходу падаваўся б ён ва Усходнюю Польшчу з заходняга напрамку: з газапартоў у Свінауйсці і Клайпедзе. Гэта ў перспектыве заканчэння актуальнага тэрміну паставак расійскага газу ў Польшчу. Не абазначае гэта адмовы ад рэнтабельных паставак з усходняга напрамку, толькі іх дыверсіфікацыю.

Адным з галоўных стрыжняў польскай палітыкі з'яўляецца сілезскі вугаль, а больш дакладна — тамашні электарат. Менавіта ўлічваючы яго Польшча трымаецца дарагой і не надта экалагічнай вытворчасці электраэнергіі з прымяненнем сілезскага вугалю. Таму наша краіна адмовілася ад супольнага з Прыбалтыкай праекта перабудовы АЭС у Ігналіне. Самой Літве ўтрымание гэтай электрастанцыі нерэнтабельнае і прыбалтыйскія краіны імпартуюць нашмат таннейшую электраэнергію са Швецыі. Польшча пабудавала электралінію ва Украіну, аднак яна не працуе з боязі перад падачай таннай электраэнергіі з Хмяльніцкай АЭС, што ставіла б пад пытанне рэнтабельнасць здабычы вугалю ў Сілезіі. Можна сказаць, што замест супрацоўніцтва наглядаецца ў нашай частцы Еўропы шмат энергетычных эгаізмаў.

Столькі парадкам агульнага ўвядзення. Далейшыя працы кангрэсу праходзілі ў асобных паралельных дыскусійных панэлях. Я рашыў прыслухоўвацца меркаванням спецыялістаў па энергетычнай бяспецы Усходняй Польшчы, развіцці выкарыстання тут жа абнаўляльнай энергіі, пытанням развіцця меншых гарадоў і развіцці харчовай прамысловасці ва Усходняй Польшчы.

У нашай частцы краіны разбудоўваецца электрастанцыя ў Астралэнцы, аднак вугаль да яе будзе завозіцца не са значна бліжэйшага і таннейшага люблінскага басейна, толькі менавіта з сілезскага. У нашым рэгіёне будуюцца новыя электраразмеркавальні ў Сухаволі, Ксянжыне і Браньску, паўстаюць новыя лініі электраперадач. Можна меркаваць, што наша частка краіны надзейна забяспечана пастаўкамі электраэнергіі.

Калі ж справа маецца з выкарыстаннем аднаўляльнай энергіі, то яе крыніцы, апрача экалагічных пераваг, маюць і недахопы. Для прыкладу, ветравыя фермы развіваюць у нас поўную моц толькі на працягу трох-чатырох дзён цягам года, іх праца вельмі нестабільная. Цяпер іх будаванне спынена новым законам, які дазваляе ставіць такую ўстаноўку толькі ў не меншай за пяць яе вышынь адлегласці ад населеных пунктаў або ахоўваных тэрыторый. Зараз у краіне толькі каля чатырох адсоткаў тэрыторы задавальняла б гэтыя патрабаванні, таму ў найбліжэйшай будучыні, да часу магчымай навелізацыі законаў, іх пабудова не прадбачваецца. Фотавольтавыя ўстаноўкі працуюць удзень, акурат тады, калі найбольшае гаспадарчае запатрабаванне на энергію. Даволі стабільныя біягазавыя ўстаноўкі, аднак і яны маюць свае хібы, бо вытворчасць сыравіны для іх можа прывесці да непажаданых экалагічных паслядоўнасцей; да таго ж яны невялікай магутнасці. Аднаўляльная энергія ў нас уводзіцца даволі нясмела ў параўнанні з краінамі Захаду, наша энергетычная структура заганная, наша краіна ў перадавіках еўрасаюзных атрутнікаў, выкідваем у асяроддзе вялізныя колькасці забруджванняў, што пасля перакладваецца на якасць жыцця і даўгавечнасць нашага насельніцтва.

Былы сенатар з Падкарпацкага ваяводства Казімеж Яворскі запрэзентаваў сваю ініцыятыву стварэння энергетычных кластараў на парафіяльнай базе, якія мелі б карыстаццa Божым блаславенствам: ветрам, сонцам, біямасай і вадою. Лідарамі гэтай ініцыятывы мелі б быць ксяндзы, войты і прадпрымальнікі. Ужо атрыманы дазволы на дзейнасць звыш соткі такіх кааператываў, а сам спадар Яворскі прадбачвае каля паўтысячы лакалізацый. Пакуль што гэта толькі прыгожы план...

У нас, як і ў шырокім свеце, назіраецца высмоктванне насельніцтва з невялікіх мясцовасцей у большыя асяродкі. Прафесар Пшэмыслаў Сляшынскі з Польскай акадэміі навук згадваў пра патрэбу новага разгляду адміністрацыйнага дзялення краіны, бо меншыя суб'екты здаюцца траціць сваю здольнасць быць тэрытарыяльнымі цэнтрамі; мова была пра паветы, але напэўна гэтая праблема кранае і гмінныя асяродкі.

У ходзе дэбатаў разглядалася і дэмаграфічная сітуацыя нашых гарадоў сярэдняга маштабу, а канкрэтна Бельска-Падляшскага і Аўгустава. Бельск стаў перад дэмаграфічным бар'ерам далейшага развіцця. Тут беспрацоўе адносна невялікае, яно каля 6%, таму ў горадзе складана было б знайсці людзей для новых інвестыцый. Як адзначыў бургамістр горада Яраслаў Бароўскі, сярэдняя зарплата бяльшчан вышэйшая чым такі ж паказальнік для Беластока. І гэта, парадаксальна, прымушала б новых інвестараў да большых выдаткаў, да прапанавання высокіх канкурэнтных зарплат новым працаўнікам, якіх трэба было б звабіць з дагэтуль займаных пасад. У Аўгуставе быццам справа маецца лепш, бо там беспрацоўе на ўзроўні 14%, але калі ахвотныя інвестары хацелі разгарнуць там бізнес, не знайшлі ахвотных да працы. У Аўгуставе быў яшчэ адзін спецыфічны інвестыцыйны бар'ер — гэта санаторны горад, дзе абавязваюць інвестыцыйныя абмежаванні. Але ўдалося падзяліць горад на тры кварталы, пакідаючы санаторны характар за адным з іх, а ў апошніх можна развіваць інвестыцыі.

Агульны трэнд у нашай частцы Польшчы ўсё ж такі дэпапуляцыйны. Хаця апытанні насельніцтва паказалі, што на ўсходзе нашай краіны людзі больш задаволеныя ўмовамі жыцця чым на захад ад нас. Тут ёсць культурны капітал. А нашы гарады, як Аўгустаў ці Бельск — гэта, так было падкрэслена на канферэнцыі, гарады з ідэяй. І гэта абнадзейвае.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

(працяг за тыдзень)

# Шпітальнае харчаванне

**«Харчаванне пацыентаў з'яўляецца інтэгральнай часткай лячэбнага працэсу», — канстатуе заступнік грамадзянскіх правоў Адам Боднар. Шпітальнае меню затрывожыла амбудсмена, які атрымаў шматлікія сігналы ад пацыентаў з розных бакоў краіны. Звярнуўся ён да міністра здароўя Канстанты Радзівіла з заклікам, каб супольна з Нацыянальным фондам здароўя пацікавіліся харчаваннем пацыентаў. На думку заступніка ліхому меню вінавата ахвота эканоміць сродкі на харчаванні для пацыентаў, паколькі трэба яго фінансаваць у рамках заключанага кантракта з НФЗ. Заступнік грамадзянскіх правоў прапанаваў, каб правa на харчаванне, згодна са станам здароўя, запісаць у Карту правоў пацыента. Дзеля эканоміі бальніцы абмяжоўваюць узровень стаўкі харчавання для пацыентаў, не прымаючы на працу дыетэтыкаў, уводзяць іншыя ашчадныя рашэнні. «Рацыяналізацыя коштаў харчавання пацыентаў не можа абазначаць пошукаў ашчаднасці без гарантыі належных і бяспечных для здароўя якасных параметраў» — канстатуе Адам Боднар. Як піша «Дзённік заходні» ад 6 верасня, дзённыя стаўкі харчавання ў шпіталях з'яўляюцца ніжэйшымі (ад 4 да 10 зл.), чым у турэмных установах.**

Справай шпітальнага харчавання цікавіліся інспектары Вышэйшай кантрольнай палаты (НІК). Ва ўсіх кантраляваных бальніцах меню рыхтавалася несумленна, таму што не гарантавала яно належнай пажыўнай вартасці, таксама адпаведнай долі гароднiны і фруктаў. У дыеце не хапала збожжавых і малочных прадуктаў. Ужываліся нізкаякасныя вяндліны. На думку аўтараў рапарта Таварыства пазакішачнага і дакішачнага харчавання, кожны трэці пацыент, які трапляў на шпіталізацыю, быў недастаткова кормлены па прычыне хваробы, аднак 70% пацыентаў выходзіла пасля лячэння дамоў з сімптомамі недаядання.

Сёлета я два разы шпіталізаваўся ў бальніцы ў Гайнаўцы і раз у Беластоку — на ўралагічным аддзяленні ваяводскага шпіталя па вуліцы Складоўскай. Не магу прад'яўляць заўваг наконт харчавання пацыентаў. У гайнаўскім шпіталі я не адчуваў сябе галодным, хоць кампаньёны па палаце пакрысе даядалі. Для іх, значыцца, ежы не хапала. Прыклад з Гайнаўкі — снеданне: дзве лусты хлеба, кавалак масла, два кавалкі плаўленага сырка, кава з малаком; абед — крупнік, бульба з гуляшом, кампот; вячэра — малочны суп, цеста на дражджах. Наступнага дня на снеданне замест плаўленага сыра давалі сасіску, тварожнік, вэнджаную макрэль (скумбрыю), порцыю высакаякаснай каўбаскі. І так упераменшку. У абедні час таксама мяняліся стравы. Апрача бульбы з гуляшом давалі вараны рыс з мясным рулетам, салат з тушанай маркоўкай, бульбай і ножкай, макароны са смятанай ды цукрам, ячныя крупы з гуляшом і бурачкамі. Вячэра была лёгкатраўная: булачка або цеста на дражджах, суп малочны або макароны, плаўлены сырок, кава з малаком, аўсянка. Карыстаючыся такой дыетай я пачаў адчуваць сябе лепш. Паменшыўся крывяны ціск. Таму, вярнуўшыся дамоў, пачаў рыхтаваць стравы па шпітальным рэцэпце. І вынік бачу станоўчы — скінуў лішнія кілаграмы.

У ваяводскім шпіталі ў Беластоку ляжаў я адно чатыры дні. Але закідаў наконт харчавання пацыентаў не магу прад'яўляць — меню было разнавіднае, высакаякаснае з улікам свежай гароднiны, фруктаў, малочных прадуктаў ды мясных страў. Прыклад аднаго дня: снеданне — дзве лусты хлеба, большая булачка, кавалак масла, тры скрылікі кансерваванай кумпячыны, кава з малаком; абед — суп з макаронамі, салат са свежай гароднiны (капуста і маркоўка), бульба з порцыяй варанага мяса, кампот; вячэра — дзве лусты хлеба, кавалачак масла, тварог. Пры такім меню пацыент набірае сілы ды хутчэй адольвае хваробу. І мне шпіталізацыі ў Гайнаўцы і ў Беластоку далі станоўчы вынік. І за гэта персаналу згаданых устаноў прыношу шчырую падзяку.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# «АПОШНІЯ СВЕДКІ» ў Беластоку

**«Апошнія сведкі»** — спектакль, на аснове рэпартажаў Святланы Алексіевіч, які адкрывае гледача на зверскасць вайны. Яго героі — дзеці, якія перажылі вайну. Перад вачыма публікі ўспыхаюць вобразы пажараў, бязлітасных забойцаў у элегантных формах, павешаныя каты, якія напамінаюць труп дзіцяці. Дзеці глядзяць на гібель вядомых і блізкіх людзей у ціхім адчаі. Яны разумеюць. Вайна заставіла іх заўчасна дарасці, узяць адказнасць за родных.



Спектакль у рэжысуры Іаанны Троц паставіла тэатральная група Гайнаўскага беларускага музея. У ролі дзяцей вайны ўвасобіліся Аня Бяляўская, Наталля Васько, Яцак Дружба, Магдалена Гаўрылюк, Іаанна Марытка Асіпчук, Павел Кучынскі, Дамініка Пуц. Апрача складанага зместу моладзь падняла яшчэ адзін выклік. Іх аповеды прагучалі на падляшскіх гаворках ад Бельска і Нараўкі. Апошняя справа патрабуе яшчэ многа правак, але, нягледзячы на моўныя недахопы, акцёрам-аматарам шмат удалося. Іх аповеды складаюць адзін гарманічны пераказ, набрынялы ў эмоцыі і вобразы знішчэння. Між паасобнымі ўспамінамі прабіваецца далікатны гук цымбалаў, які суцішае і лагодзіць жорсткую атмасферу аповедаў.

Спектакль «Апошнія сведкі» — найлепшы ўрок жыцця для разбаўленай, наіўнай, пазбаўленай свядомасці зла моладзі. Мы, дзякуючы камп'ютарным гульням, прывыклі пакінуць гульню ў небяспечны момант. Ваенныя гісторыі дзяцей даказваюць, што такога не бывае. У ахвяр вайны няма шанцаў на абарону. Вырашае сляпы выпадак. Гэта таксама прызыў гуманістычных каштоўнасцей. У святле фатальнага збродy больш відавочны дар жыцця, сямейныя сувязі і пачуцці, значэнне сумлення.

Пастаноўка «Апошнія сведкі» была паказана ва Універсітэцкім культурным цэнтры Універсітэта ў Беластоку, 24 верасня, у рамках III Тэатральнага фестывалю «Одэ». Шматлікая публіка не шкадавала воплескаў, разумела важнасць падзеі і каштоўнасць працы гуртка. Апрача сказанага, была магчымасць пазнаёміцца з творчасцю Святланы Алексіевіч, беларускай лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі па літаратуры.

— Па чарзе гэта трэцяе выступленне, — заявіла наша сяброўка Наталля Васько з Гайнаўскага беліцэя, якая прадставіла сваю ролю на характэрнай нараўчанскай гаворцы (пераклад зрабіла Ганна Кандрацюк — настаўніца з Нараўкі). Найбольш запамяталася выступленне ў Райску. Спектакль паказалі ў 74 гадавіну знішчэння фашыстамі Райска 16 чэрвеня 1942 года. Людзі глядзелі іх п'есу і плакалі.

**Зорка, фота ГК**

# Гарбуз у шэсць і паўпуда!



Ірыней Бірыцкі
і яго гарбузы

Пачалася восень і ўборка агароднiны з палёў і агародаў. Сёлета ў некаторых земляробаў яна дала вялікі ўраджай. Поспеху дабіўся 15-гадовы Ірыней Бірыцкі, унук Юрыя і Аляксандры Ляшчынскіх з Новага Ляўкова. Ён вырасціў два гарбузы: адзін важыць 104 кілаграмы, другі — 64. Забраў іх з агарода ў нядзелю, 25 верасня, бо лісце прыхваціў прымаразак і яно знікавела, пачарнела. Бабка і дзядуля тут жа запрасілі прыехаць з фотаапаратам свайго, бо новаляўкоўскага, шматгадовага карэспандэнта «Нівы» (ён, як кажуць, у іх пад рукой). Калі ён прыйшоў цешыўся ўнук і ягоныя бацькі.

Ірэней расказаў нам пра сваю першую такую ўдачу. Найперш ён папрасіў у свайго добрага калегі насення вялікіх гарбузоў *Atlantic Giant*, якія той дастае з далёкай Канады. Пасадзіў у вазончыку, а пасля ўжо расаду на г.зв. грунт. Гарбузы паліваў ды засланяў ад гарачага летняга сонца (знаходзіліся яны быццам пад палаткай), каб шкурка хутка не стала цвёрдай. І так вось прыйшлося крыху заўчасна забіраць тыя не абы-якія плады. Каб не ранішнія прымаразкі адразу пасля 15 верасня, гарбузы яшчэ раслі б. Ажно ціснуцца ў галаву такія словы: «Эх, каб не марозы і зімой зацвіталі б розы».

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

Іван Гурбан

## Адлёт шпакоў

Згушчаюцца ў небе аблокі,
Абшары мяняюць аблічча,
А восень у вырай далёкі
Шпакоў і збірае, і кліча.
Збіраюцца птушкі павольна
Іх круг развітальны за кругам
Ізноў узнікае над полем,
Над рунню,
Над вывілым лугам.
За мора яны адлятаюць,
У смуную далеч-дарогу...
І доўга ад роднага краю
Шпакі
Адарвацца не могуць.

## УВАГА КОНКУРС! № 40-16

З хаты ў хату водзіць,
а сама
не заходзіць.
д.....

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 9 кастрычніка 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 37: капуста. Узнагароду, запісную кніжку, выйграла Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**


Адрыян Данілюк спявае «Ой у полі, пры даліне»

## Жарты Міколкі

Настаўніца пытае на ўроку біялогіі:

— Як вы, дзеці, думаеце, птушкі маюць розум?

Міколка цягне руку і, атрымаўшы дазвол, радасна паведамляе:

— Вядома, маюць.

— Ну, цікава, скажы!

— Птушкі разумнейшыя за дзяцей. Асабліва пералётныя, бо, як толькі пачынаецца навучальны год, яны адлятаюць у вырай, а на летнія канікулы вяртаюцца.

*Міра ЛУКША*

## *Ляшчына*

*Благаслаўлёная ляшчына,*
*бо Хрыста накарміла.*
*А ляшчыны галіна*
*не адну крыніцу адкрыла.*
*Пад ляшчынай хавайся*
*ад маланкі-грому,*
*за пояс парастак заткні,*
*зло, змей, хмары адгоніш.*
*Гнуткі куст ляшчыны*
*з арэхамі-спарышамі*
*варожыць для дзяўчыны,*
*і для ўсіх нас з вамі,*
*пладавітасць і ўдачу.*
*Добрае будзе замужжа,*
*багатае, без плачу.*
*У вянчанне маладая*
*за пазухай арэшак*
*ляшчыны трымае,*
*дык будзе цешыцца —*
*гожых сынкоў нараджае.*
*Арэшак закоціць пад ложак,*
*хлопчыкаў будзе даволі,*
*здаровенькіх і прыгожых,*
*крэпкіх бы дубочак у полі.*
*Сарвеш і захаваеш*
*першую кветку з арэха,*
*купальскі скарб атрымаеш,*
*будзеш мець багацце і ўцеху.*
*Калі на Раство будзе вецер*
*ці на Каляды снежна,*
*у арэхі багата ўлецці,*
*смакавіта будзе і ўежна.*
*Падкладзі арэх у насенне,*
*дай авечцы у Юр'еў дзень,*
*у Каляды рассып па хаціне,*
*ды лепш не хавайся ў цень.*

### Замкі і палацы Беларусі

# ГАЛЬШАНЫ — НАЙПРЫГАЖЭЙШАЯ КВЕТКА ЛІТВЫ

Хоць да нашых часоў ад Гальшанскага замка засталіся руіны, ён прыцягвае і дарыць натхненне. У Беларусі няма другога так багатага на легенды і былі месца. Сам Караткевіч прысвяціў Гальшанскаму замку раман.

Слава Гальшан звязаная з каралеўскай дынастыяй Ягелонаў. Адсюль родам Сафія Гальшанская, другая жонка Уладзіслава Ягайлы, маці польскага і *літоўскага* караля Казіміра. Таксама з гэтага родавага гнязда выводзіць карані беларуская ды ўкраінская святая Юліяна Гальшанская.


Малюнак Напалеона Орды

У XVI стагоддзі ўласнікам Гальшан стаў Павел Сапега. Ён пабудаваў раскошную рэзідэнцыю, якую лічылі найпрыгажэйшай кветкай Літвы. Сапега пабудаваў манастыр францысканцаў, пра які і сёння ходзяць таемныя легенды. Нібыта адна са сцен манастыра ўвесь час варушылася. І каб прыдбаць ёй стабільнасць, будаўнікі прынеслі ахвяру — яны замуравалі ў прыбудоўцы жывую дзяўчыну. З той пары па калідорах манастыра кружыць Белая Панна…

Найпрыгажэйшая краска Літвы была разбурана ў гады Паўночнай вайны (1700-1721), ды ўжо не паднялася з руін. Месца аднак вабіць і ўсё прыцягвае паклоннікаў старажытнасці і прыгоды. Летам у Гальшанах адбываецца фестываль «Гальшанскі замак». Побач ацалелых сцен праходзяць рыцарскія турніры і гучаць сярэдневяковыя песні.

А мясцовыя людзі апавядаюць суседскія былі, якія так каларытна запісаў сучасны пісьменнік, супрацоўнік «Нівы» Віктар Сазонаў, народжаны ў гэтых жа славутых Гальшанах. **(гак)**

## Вершы Віктара Шведа



### Хто пахудзеў?

– Ездзіць на кані мая мама
– Каб скінуць крыху
кілаграмаў.
– Памагло матулі гэта,
Калі не ёсць яно сакрэтам?

– І хоць пахудзець хацела,
Язда маме надаела.
Невядома мне як мама,
Страціў конь сем кілаграмаў.

### Спосаб на сон

Мама мужа лае
– Ты аб сынку не дбаеш.
Па тэлебачання жахах
Ён уміраe са страху.

– Сынка жахі трывожаць,
Ён уцякае ў ложак,
Цёплай коўдрай прыкрыты,
Спіць як быццам забіты.

## Польска-беларуская крыжаванка № 40-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 36:**

Усё, Лі, госці, наш, тур, гаспадыня, паркет, кос, ачаг, то, баян, карак. Спагада, шар, скан, до, печ, статак, цуд, га, лірык, нота, паясок.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока і **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Polecenie
Konie
Pisk
Dźwięk
Uch!
As
Bank
Korfu
Boks
Brat
Zubr
Dzbanek
Turniej
Ar
Port
Bak
Fa
Tur

# V Фэст здароўя

## «У здаровым целе здаровы дух»



■ Медсёстры з Непублічнага прадпрыемства аховы здароўя «Гаймед» з Гайнаўкі правяралі ціск крыві і ўзровень цукру



■ Падчас фэсту адбыўся конкурс на лепшую страву з агародніны і фруктаў



■ На прыродзе ў гарадскім парку адпачываў калектыў «Жэмэрва», які пасля выступіў з аўтэнтычнымі песнямі ў амфітэатры

У гайнаўскім амфітэатры і парку, які яго акружае, 4 верасня гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія ў супрацы з бургамістрам Гайнаўкі арганізавала V Фэст здароўя пад лозунгам «У здаровым целе здаровы дух». Старэйшых гайнавян у амфітэатр прыцягнулі прапановы праверкі стану здароўя, малодшых — зацікавіла прапагандаванне здаровага ладу жыцця. Са сцэны амфітэатра, так як і падчас папярэдніх фэстаў здароўя, плылі беларускія песні ў выкананні нашых калектываў. Новым элементам мерапрыемства была прэзентацыя неапрацаванага беларускага фальклору. Пад вечар у прыгожа адрамантаваным амфітэатры запоўніліся амаль усе сядзячыя месцы. Раней гайнавяне і прыезджыя правяралі стан здароўя, аддавалі кроў, куплялі здаровае харчаванне, сувеніры, у тым ліку вырабы народных творцаў.

Фэст здароўя адкрылі Люцына Рушук, старшыня ўправы гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія, духоўны апякун гайнаўскага аддзялення брацтва іерэй Марк Юрчук і бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак. Айцец Марк Юрчук выступіў з дакладам, у якім заклікаў сабраных дбаць пра духоўнае і цялеснае здароўе ды пра навакольнае асяроддзе. Да здаровага ладу жыцця, большай фізічнай актыўнасці, спажывання здаровага харчавання і праверкі стану здароўя заклікалі са сцэны шматлікія выступоўцы, між іншым, вядучы мерапрыемства, ураджэнец Гайнаўкі і спецыяліст па візантыйскай музыцы Марцін Абійскі.

— Падчас сённяшняга «Фэсту здароўя» мы згодна нашаму лозунгу «У здаровым целе здаровы дух» заахвочваем да здаровага ладу жыцця. Прапануем жыццё згодна з духоўнымі законамі, заахвочваем да фізічнай актыўнасці. Сённяшні фэст сарганізаваны пры дапамозе спонсараў, сярод якіх галоўнымі з'яўляюцца бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і Гайнаўскі дом культуры, гайнаўскі староста Міраслаў Раманюк, Фабрыка мэблі «Фортэ» з Гайнаўкі і магазін «У Мірка», — сказала Люцына Рушук, старшыня гайнаўскага аддзялення брацтва.

— «Фэст здароўя» — вельмі патрэбнае для жыхароў нашага горада мерапрыемства, падчас якога людзі маюць магчымасць крыху даведацца аб стане свайго здароўя і як дбаць пра яго штодзень. Можна купіць здаровае харчаванне, прыняць удзел у конкурсах, спартыўных спаборніцтвах і адпачыць пры выступах калектываў на сцэне, — сказаў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак.

Насупраць уваходу ў амфітэатр стаялі палаткі, у якіх можна было даведацца наконт здаровага ладу жыцця. Медсёстры з Непублічнага прадпрыемства аховы здароўя «Гаймед» з Гайнаўкі правяралі ціск крыві і ўзровень цукру. Менавіта да іх выстраіліся вялікія чэргі ахвотных да такой праверкі. Перш за ўсё былі гэта пенсіянеры. А маладыя ў сваю чаргу стаялі перад палаткай, у якой можна было аддаць кроў для патрабуючых. Непублічнае прадпрыемства аховы здароўя «Кінетыка» ў Гайнаўцы заахвочвала карыстацца рэабілітацыйнымі паслугамі. Паказваліся спосабы аказвання першай дапамогі, а ахвотныя маглі самі паспрабаваць рэанімаваць з выкарыстаннем манекена і атрымаць парады ад ратаўнікоў. У некалькіх месцах можна было купіць мёд, які вельмі карысны для здароўя. Прадаваўся, між іншым, мёд з пасекі архімандрыта Гаўрыіла, разам з духоўнай літаратурай і кружэлкамі з духоўнымі песнямі. Побач прадаваліся выданні гайнаўскага праваслаўнага выдавецтва «Братчык», на падставе якіх можа вучыцца духоўнаму жыццю і знаёміцца з жыццём святых. Удзельнікі Майстар-класаў па працатэрапіі ў Гайнаўцы прадавалі іконы і сувеніры, выкананыя асобамі з абмежаваннямі. Дзеткі ахвотна адпачывалі ў гарадку гульняў для наймалодшых, дзе карыстанне рознымі прапановамі было бясплатнае. Наймалодшым трэба было паказаць свае спартыўныя ўмеласці ў турнірах па футболе. Удзельнікі фэсту маглі прыняць удзел у латарэі з грашовымі ўзнагародамі, спонсарамі якіх былі гайнаўскі староста Міраслаў Раманюк і яго жонка Аліна. Магазін «У Мірка» з Гайнаўкі быў фундатарам веласіпеда — узнагароды ў латарэі для дзетак ва ўзросце ад 8 да 11 гадоў. Зацікаўленасць публікі выклікалі сямейныя спаборніцтвы за ўзнагароду гайнаўскага бургамістра Ежы Сірака і яго жонкі Галіны. Каманды (муж, жонка і адно дзіця) кідалі лекарскім мячом на адлегласць — выйграла сям'я Аляксей, Эдыта і Барташ Кот. Удзельнікі Гайнаўскага спартыўнага клуба дзюдо «Зубр», якіх трэніруе Якуб Астапчук, паказалі розныя прыёмы гэтага віду спорту і заахвочвалі займацца ў гайнаўскім клубе дзюдаістаў. Члены Цэнтра «Kettlebell» з Бельска-Падляшскага паказалі, як трэніруюцца з гірамі, каб магчы падымаць штораз цяжэйшыя прадметы. Адначасна збіралі яны ахвяраванні для сяброўкі цэнтра Мажанны Вячорак на лячэнне пазваночніка, які пашкодзіла падчас трэніроўкі. Перад публікай прэзентаваліся таксама жанчыны з фітнес-клуба з Гайнаўкі.

Падчас фэсту ўжо чарговы раз быў арганізаваны конкурс на лепшую страву з агародніны і фруктаў за ўзнагароду бургамістра Гайнаўкі. Перамагла Ірэна Галавачык, якая падрыхтавала сушаны рулет з агародніны і фруктаў. Другое месца заняла Аліна Мішчук, якая выканала тры соусы з агародніны, а трэцяе — Ева Жукавіцкая за торт з фруктаў.

— Зацікаўленасць нашым конкурсам упэўнівае нас, што варта ладзіць яго ў наступных гадах. Мы ацэньвалі стравы з агародніны і фруктаў, звяртаючы ўвагу на смак, арыгінальнасць стравы і выкарыстанне ў іх здаровых інгрэдыентаў, — сказала Марыя Ляшчынская, якая разам з Іаннай Кірылюк былі адказнымі за правядзенне конкурсу.

Падчас фэсту дзве настаўніцы заахвочвалі бацькоў запісваць дзетак у новастворанае Непублічнае прадшколле свсв. Кірылы і Мяфодзія, якое з пачатку верасня працуе ў будынку Гайнаўскага белліцэя.

— Бацькі запісалі ў наша прадшколле 5 дзетак, але мы разлічваем, што дойдуць яшчэ іншыя дашкольнікі. У нас добрыя ўмовы для працы з наймалодшымі, бо можам карыстацца двума пакоямі з асобным уваходам і люстранай залай белліцэя. Будзем рэалізаваць агульную праграму, як ва ўсіх іншых прадшколлях, а дадаткова прадбачваем музычныя, танцавальныя, мастацкія, кулінарныя і іншыя заняткі, а таксама навуку англійскай мове. Прадугледжваем, што апрача заняткаў па праваслаўнай рэлігіі падчас вялікіх святкаванняў будзем заводзіць дзетак на багаслужбы ў царкву, — сказалі настаўніцы з Непублічнага прадшколля свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Гайнаўцы.

Старшыня гайнаўскага брацтва Люцына Рушук дабавіла, што бацькі дашкольнікаў будуць мець яшчэ выбар паміж дадатковым навучаннем дзетак у прадшколлі беларускай або расійскай мовам.

Адным з галоўных герояў, якія запрэзентаваліся на сцэне, быў беларускі хор «Васілёчкі» Бельскага дома культуры. Спачатку ўдала запрэзентаваў ён беларускія песні, а пасля абрад «Сенакосы», падрыхтаваны тэатральным інструктарам БДК Альжбетай Фіёнік.

— Я родам з Гайнаўкі і тут выступаю перад сваімі знаёмымі. Прапановы сённяшняга «Фэсту здароўя» цікавыя, — сказала арганізацыйная кіраўнік «Васілёчкаў» Ніна Бялецкая.

У канцы «Фэсту здароўя», разам са старшынёй аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафеем Фіёнікам, у гайнаўскім амфітэатры цікава выступіў калектыў «Жэмэрва» з аўтэнтычнымі песнямі, у тым ліку сенакоснымі.

— Зараз у «Жэмэрвы» стабільны склад. Сёння мы хочам запрэзентаваць розныя песні з нашага вялікага рэпертуару, — сказала кіраўнік «Жэмэрвы» Анна Фіёнік і пахваліла ідэю «Фэсту здароўя» і прапагандаванне здаровага ладу жыцця.

Я засяродзіўся на бельскіх калектывах якраз з-за прэзентавання імі неапрацаванага беларускага фальклору, але беларускі песенны рэпертуар удала прэзентавалі таксама гайнаўскія калектывы, якіх выступіла найбольш.

— Нам важна, каб як найлепш выступіць перад сваёй публікай. Спяванне ў сваім горадзе дадаткова мабілізуе, — сказала Аліна Негярэвіч, музычны кіраўнік беларускага хору «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры, які цікава запрэзентаваўся перад гайнавянамі.

З беларускімі песнямі ўдала выступілі таксама маладыя гайнаўскі вакальна-інструментальны калектыў «Давід Шымчук Банд» і калектыў «Жаваранкі» з Махнатага. У Гайнаўскім доме культуры, якога дырэктар Расціслаў Кунцэвіч таксама прыбыў у гарадскі амфітэатр, арганізуюцца музычныя і танцавальныя заняткі, дзейнічаюць шматлікія калектывы, частка якіх запрэзентавалася перад гарадской публікай. Удала спявалі салісты са Студыі песні ГДК, народныя танцы займальна запрэзентаваў калектыў «Перапёлка», але цікава выступіла таксама гайнаўская моладзь з сучаснымі танцамі. Займальна выступілі вялікі духавы аркестр і мажарэткі, што дзейнічаюць пры Дзяржаўнай пажарнай ахове ў Гайнаўцы. Удала выступіў заснаваны нядаўна ў Беластоку калектыў «Мікрон», спевакі якога выконваюць беларускія, украінскія і расійскія песні. Вечарам гайнаўскую публіку ўдала разаграваў вядомы беларускі калектыў «Ас» з Беластока.

Зараз працаўнікам розных устаноў, якія на працы многа часу сядзяць, патрэбная фізічная актыўнасць. У мінулым людзі па вёсках цяжка працавалі фізічна ў полі і на сваіх панадворках, а спеў на лавачках і падчас сямейных урачыстасцей даваў ім радасць і адганяў нараканне на свой цяжкі лёс. Патрэба духоўнага ўдасканалення, фізічнай актыўнасці і адпачынку пры песнях была спалучана падчас гайнаўскага «Фэсту здароўя». Прадбачваецца, што прапагандаванне лозунга «У здаровым целе здаровы дух» і здаровага ладу жыцця будзе працягвацца гайнаўскім аддзяленнем Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія падчас фэстаў у наступных гадах.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Па копных дарогах

Расходныя дарогі ў Падазеранах. Разглядаюся ў каторую падацца. Паблізу жанчына прыглядаецца майму раздарожнаму разладу. Заблудзіў, кажу, і не ведаю ў каторую дарогу падацца, каб у Луплянку дастацца. А там, дзе Юзік жыў, пачынае мне тлумачыць, трэба паварнуць... Калі б я ведаў, дзе той Юзік жыў, то я ведаў бы і тамашнія дарогі, якая куды. Каля малачарні адыходзіць, паясняе мне жанчына, вось там недалёка. Але **ёва тая дарога, асцерагае. Ну, добра, а гэтая, што адыходзіць проста? — цікаўлюся. Яна ў Бахуры, і таксама **ёва, адказвае. І чаго ж у тыя Бахуры пхацца? — папракае мяне. А ў Луплянку, дадае выпадковая праваднічка, шчырая да радасці жыхарка Падазеран, не надта адсюль жа далёка. Ну то я ўжо паддаюся маёй пачатковай задуме і субяседнічынай апошняй падказцы. Аддаляюся і аглядаюся; жанчына таксама сочыць за маім маршрутам, махае рукою, паказваючы мне патрэбны азімут на Луплянку.

А ў лесе зноў расходныя дарогі, і ананімныя яны. І сапраўды, згодна з дадзенай раней характарыстыкай, насціл іх нецікавы — сам сухі пясок. Кіруюся ў тую больш езджалую. Дабіваюся да гасцінца, абсыпанай жвіроўкі. Заглядаю ў свае тапаграфічныя рэсурсы. І ўсведамляю, што не ў напрамку Луплянкі, толькі ў напрамку Лявоневіч выбраў я шлях у лясных лабірынтах. Калі так сталася, то хай ужо так яно і будзе, згодна з воляй ляснога лёсу.

Дарога з лесу выходзіць у поле. І гэтая польная становіцца даволі натурлівая. У прынцыпе на ёй дзёрнавы насціл, але кожныя некалькі метраў у тым густым дзёране акуратныя пясочніцы, быццам у тыя месцы зваліўся нейкі парашок з адлеглага космасу і выцерабіў адтуль усё жывое...

У Лявоневічах, на вулічнай лавачцы вельмі пажылая жанчына вяжа на прутках шкарпэтку. За ёю падвойная хата, якая ўжо моцна паслабела і пачынае хіліцца, бо ейныя гаспадары раз'ехаліся па свеце. А яна выйшла ў сонечнае надвор'е з хаты, каб хаця людзей якіх на вуліцы пабачыць. Бо ў Лявоневічах жыве ўсяго толькі дванцаць тры душы, у гэтым ліку шасцёра дзяцей у дзвюх сем'ях — па тры ў кожнай. Быў калісь такі час, калі ў Лявоневічах жыло каля васьмідзесяці гаспадароў. Цяпер толькі траіх абрабляе сяк-так зямлю. І адзін трымае вялікі статак кароў, звыш соткі штук, у тым ліку шэсцьдзясят шэсць дойных, і маладняк. А я цікаўлюся, ці ў даўні час, калі вёска была яшчэ людная, усе гаспадары трымалі разам столькі кароў, колькі цяпер адзін. Можа і не было тады столькі дабытку, задумваецца сімпатычная бабулька.

Заглядаю ў Адрынкі, на стаянку для пілігрымуючай паствы. Але бязлюдна там. Побач стаянкі мемарыял савецкім салдатам, што загінулі там у час наступлення ў 1944 годзе. Побач драўлянага крыжа-алтара дзяржаўныя сцягі раманскай, балцкіх і славянскіх постсавецкіх дзяржаў. І Польшчы. Няма да- і закаспійскіх сцягоў, хаця на пералікавым стэндзе прозвішчы байцоў і з тамашняга канца свету.

З ляска за Каўпакамі выбягаюць два сабачкі, спачатку нясмелыя, а пасля, калі пачуюць за сабою дух сваіх гаспадароў, набіраюцца галасістай адвагі. Пара гаспадароў, у пачатковым пенсійным узросце, выходзіць з ляска, несучы крыху грыбоў, у такой колькасці, з якой можна зварыць грыбны суп. Супакойваюць сабак і тыя сабачкі ўжо прымільна лічаць мяне сваім. Заводзім гутарку і ў выніку аказваецца, што свет вялікі, але не надта. Ад суразмоўцаў даведваюся пра сваю вёску такое, пра што сам не ведаў. Аказваецца, што бацька майго ляўкоўскага аднакласніка паходзіў менавіта з Каўпакоў. І сам мой суразмоўца ў свой маладняцкі час часта ў Ляўкове бываў.

А я цікаўлюся ў іх тым, што пабачыў у Бялках: будынкам былой крамы і паляўнічым стэндам насупраць яго. Будынак бялоцкай крамы купіў камерсант з Беластока, там жыве і ў тры гадзіны ночы зрываецца са сну і рве ў Беласток на працу.



■ Крыжы каля Іванкоў


■ Алтар у Адрынках


■ Капліца ў Пяценцы

І пра паляўнічых пайшла гутарка. Мой субяседнік, які да пенсіі жыў у Беластоку, амаль сам не стаў паляўнічым. І ўжо калі меў амаль усё аформленае, з апошняга палявання пайшоў сабе звычайна дахаты. Бо якая карысць ад паляўнічых трафеяў? Мяса з дзікоў нясмачнае, ім нават немагчыма закусваць гарэлку. Быў ён раз спрабаваў халадцу з дзіка, то пасля цягам трох гадоў ніякага халадцу больш і ў рот не браў. А з лісоў што? Футра? То ж цяперашнія эколагі могуць яго на вуліцы здзерці ці знішчыць. Да таго ж футры цяпер непатрэбныя, бо адышлі марозныя зімы, цяпер зімою хопіць і лёгкай вопраткі. Ёсць свой лес, леташняя і сёлетняя буры шмат яго павалілі. Але каб забраць драўніну са свайго лесу, то трэба прасіць дазволу; драўніна дармовая, але за дазвол на вываз яе з уласнага лесу трэба плаціць. Прыемненька паразмаўлялі, мае субяседнікі запрашаюць наведаць іх. І нечаму дзівавацца — у Каўпаках зімаваць астаецца ўсяго трынаццаць душ. Пуставата ў вёсцы, якая здаецца быць схаваная ад вонкавага свету, вуліца там вузенькая, брукаваная, а дарогі да яе з дагістарычным насцілам.

Вось такою дарогаю, дзе насціл з копнага пяску, як з Падазеран у Лявоневічы, дабіраюся ў напрамку Подваркаў. З узгорка заўважаю каплічку Пяценкі. Бываў я там каля могільнікавай царквы, але неяк каплічку тую, пра якую так быў калісь цікава пісаў Дзядзька Квас — жыхар Малынкі Міхась Красоўскі — не ўдалося мне раней звочыць. Варта прыпомніць тое, што пра наша легендарнае мінулае запісаў дапытлівы этнограф-самавук з Малынкі...

„Ведаем са Святога Пісання аб усемагутнай міласэрнасці і жорсткасці Бога-Айца, Тварца Зямлі і Неба. Бо хто ж з нас не чуў аб сусветным патопе, калі разгневаны Бог-Айцец, як рудых мышэй, патапіў усіх людзей, апрача сям'і Ноя. За нешта пагневаўся і на нашых продкаў, бо паслаў на іх паморак. Касіла людзей смерць напавал, не паспявалі жывыя хаваць памерлых. І загінулі б усе людзі ад насланага паморку, калі б не заступілася за імі святая Пяценка".

Кім жа ж была святая Пяценка? Сайт Міжнароднай славянскай прававой акадэміі так апісвае яе: „Параскева-Пятница (льняница, Дева-Пятенка) — женское божество, богиня-пряха, подательница благ, покровительница плодородия христианского периода. Параскева-Пятница покровительствует святым целебным источникам и колодцам; известны „пятницкие родники". Она требует неукоснительного повиновения и запрещает бабам работать в день, посвященный ей, — в пятницу. За нарушение запрета она может истыкать виновную кудельной спицей или даже превратить ее в лягушку. Благоволит также играм молодежи с песнями и танцами. Появляется в белых одеждах и охраняет колодцы...".

Дзядзька Квас: „Пад Подваркамі на вярбу ля крыніцы апусцілася жаночая постаць. Свяцілася сярод ночы прамяністым бляскам. Не адважаліся падварчане падыходзіць ноччу да цудоўнай з'явы, але на світанні рушылі. Падыходзілі ўсё бліжэй. І ўсё больш бляск мутнеў. Калі падышлі зусім блізка — знік. Але крынічная вадзіца адбівалася вясёлкавым святлом. Ды толькі да таго часу, пакуль адзін сасмаглы чалавек не чарпнуў яе жменяй, каб напіцца. Гэтага чалавека ўжо адолваў паморак. Хлябнуўшы вадзіцы, пачуўся ён здаравейшым. Прыпаў да крыніцы. Напіўшыся, бы бомак, аддыхаўся і выгукнуў:

— Людкове, то ж вада жыватворная, я здаравюткім зрабіўся!

І пачалі ўсе піць цудоўную вадзіцу, паілі ёю хворых з блізкіх і далёкіх ваколіц. Усе хворыя на паморак здаравюткімі сталі, а здаровыя не захварэлі. І не толькі ад паморку ратавала крыніца Пяценкі, але і ад усіх немачаў... Дачулася пра цудоўную ваду багатая пані з Варшавы (а мо і з Парыжа?), у якой захварэў яе ўлюбёны сабачка. Прыехала гэтая злюка да Пяценкі і выкупала свайго паршыўчыка ў святой вадзе. І абарвалася з таго часу жыватворнасць крыніцы, вада ў ёй зрабілася звычайнай...".

Побач капліцы выцякае кволы ручаёк, а метр ад яго бетонны круг, у якім, як у калодзежы, вада, якую можна зачарпнуць жменяй. У вярхоўі ручайка паказалася зялёная жабка, як доказ праўдзівасці агульнай легенды пра прынцыповасць Параскевы-Пяценкі...

Вяртаюся ў Подваркі, спярша Тыльвіцкія. З боку Каўпакоў, да заблудаўска-міхалоўскай шашы, вуліца ў гэтай вёсцы вымашчана старэнькім брукам, а ўжо ў бок Беластока заліта роўным як стол асфальтам. Чарговыя Подваркі, Вялікія і Малыя, таксама вымашчаны асфальтам, які паступова збаўляе якасць і за Рахвалаўкай ён ужо не надта роўны. Паміж Рахвалаўкай і Кур'янамі асфальтоўка тая крыжуецца ў лесе з ледзь заўважнай дарогай гміннага рангу...

Паварочваю налева, у бок Зяркоў, і зараз паказваецца невялічкая прагалінка, вымашчаная невялікімі круглякамі, з высокім крыжом і інфармацыйным стэндам. На крыжы інфармацыя, што на тым месцы былі калісь могілкі, дзе быў пахаваны святы Гаўрыіл Заблудаўскі. На стэндзе змястоўная інфармацыя пра яго і пра ягоныя астанкі. Нарадзіўся ў 1684 годзе ў Зяркаx, замучаны ў 1690 годзе ў Беластоку. У час эпідэміі ў 1720 годзе ў наваколлі ўмірала шмат людзей. Хаваючы аднаго з пакойнікаў, далакопы закранулі магілу Гаўрыіла, дзе пакоілася яго неструхлелае цела. З гэтага здарэння паморка спынілася і людзі выздаравелі. Мошчы дзіцятка Гаўрыіла былі перанесены ў заблудаўскі Успенскі манастыр, а ў 1755 годзе ў Свята-Троіцкі манастыр у Слуцк. У 1820 годзе прылічаны ў лік святых. У 1930-х гадах яго мошчы перанеслі ў музей атэізму ў Мінску, у 1942 годзе ў мінскі Праабражэнскі сабор, у 1944 годзе ў гродзенскую Пакроўскую царкву і 22 верасня 1992 года ў беластоцкі Свята-Мікалаеўскі сабор. Святы Гаўрыіл зрабіў круг з Беластока ў Беласток...

І я зрабіў круг з Беластока ў Беласток, напіўшыся па дарозе звычайнай ужо вадзіцы з Пяценчынай крыніцы. Па дарогах асфальтовых, жвіровых і... копных — калі апошнія так прыстойна назваць.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Ці хапае верыць у любоў?

**Любоў у разуменні навукоўцаў і маладых людзей на розных мовах, у розных культурах і традыцыях — гэта тэма дыскусіі, прысвечанай пытанню любові ў сучасным свеце, якая 19 верасня прайшла ў Цэнтры Людвіка Заменгофа ў Беластоку На сустрэчы, апрача сацыёлагаў, прысутнічалі прадстаўнікі розных рэлігій і веравызнанняў Падляшша. Штуршком для супольнай рэфлексіі над складанымі пытаннямі была артыстычная выстаўка «Смерць любові», якая мела паспрыяць міжкультурнаму дыялогу.**



Злева: рабін Іегошуа Эліс, бацюшка Андрэй Місяюк, імам Януш Александровіч, пастар Тамаш Віглаш, кс. Андрэй Дэмбскі.

Дыскусія, якая прайшла ў Цэнтры імя Людвіка Заменгофа, тычылася формы любові ў сучасным свеце — свеце канфліктаў, барацьбы, войнаў, але перш за ўсё ставіла пытанне аб форму кахання паміж людзьмі розных веравызнанняў, якія жывуць на тэрыторыі Падляшша. Да дыскусіі былі запрошаны прадстаўнікі розных рэлігій і веравызнанняў нашага рэгіёна: рабін Іегошуа Эліс, імам Януш Александровіч, кс. Андрэй Дэмбскі, бацюшка Андрэй Місяюк, пастар Тамаш Віглаш.

Тая незвычайная сустрэча адбылася дзякуючы дзвюм мастачкам. Малгажата Врубэль-Кручэнка і Дамініка Сергей паставілі перад сабою пытанне пра любоў, ладзячы ў рамках Фестывалю «Усход культуры» выстаўку ў Цэнтры імя Людвіка Заменгофа. Першая — родам з Беластока, другая — з Любліна. Абедзве палознаму зазналі жыцця на паграніччы. Падрыхтаваная імі інсталяцыя мае пакрытыя надпісамі сцены. Гэта паасобныя словы, якія выказваюць любоў, цытаты з Біблії, Торы, Карану напісаныя на чатырох мовах: польскай, арабскай, габрэйскай і старажытнацаркоўнаславянскай. Гэта мовы, якімі карыстаюцца меншасці, пражываючыя на тэрыторыі Любліншчыны і Беласточчыны. У самым цэнтры мастацкай інсталяцыі стаіць невялікі стол з двума крэсламі, які мае заахвоціць да супольнай размовы. Выстаўка сапраўды трапіла да гледачоў, паколькі ўдалося прыцягнуць у адно месца прадстаўнікоў вялікіх рэлігій.

— Ідэяй нашага праекта не была сама сустрэча, але правакацыя да дыскусіі, — сказала мастачка Малгажата Врубэль-Кручэнка. — Справакаваць да рэфлексіі, да таго, каб на хвіліну затрымацца ў сённяшнім свеце і супольна абмеркаваць тэмы, так важныя для нашага супольнага існавання.

Такім чынам у прысутнасці пяці духоўных і двух сацыёлагаў была закранута тэма гармоніі. Як не дасягнуць, каб не дапусціць да рэлігійных канфліктаў? У час дыскусіі склалася выснова, што ключом з'яўляецца зразуменне. На думку імама Януша Александровіча, самай вялікай перашкодай на шляху да міжрэлігійнай гармоніі з'яўляецца невуцтва:

— Да нядаўняга часу добразычлівасць да іншых рэлігійных традыцый была асабліва важная, вядома ж, найбольш у тых месцах, дзе людзі розных рэлігій жылі побач. На сённяшні дзень, складаны, поўны ўзаемазалежнасці свет прымушае нас прызнаць існаванне іншых культур, іншых этнічных груп і прадстаўнікоў іншых рэлігій. Хочам мы гэтага ці не, але большасць з нас кожны дзень сутыкаецца з гэтым відам іншасці. Дабрыня ў адносінах да іншых традыцый стала справай велізарнай важнасці.

Рабін Іегошуа Эліс звярнуў увагу, што ў дыялогу з прадстаўнікамі іншых рэлігій мы павінны ўводзіць у паўсядзённае жыццё навукі нашай уласнай традыцыі:

— Маючы свядомасць карысці, якія плывуць з любові, спачування і этычнай дысцыпліны, лёгка ўспрыняць каштоўнасці іншых навук. Для таго, каб гэта адбылося, мы павінны ўсведамляць сабе спачатку, што практыка рэлігіі значна больш патрабуючая, чым паўтарэнне слова «веру». Гэта больш, чым наведванне сінагогі, храма, царквы. Рэлігійныя навукі маюць мала карысці, калі яны не пранікаюць у сэрца, застаючыся толькі на ўзроў-

працяг ☞




Спробы сабраць на адным сайце расповеды пра выдатных дзеячаў былі заўсёды. Праўда, такія сайты не вызначаліся нечым незвычайным — як правіла яны змяшчалі біяграфію таго ці іншага дзеяча, штосьці з яго дзейнасці, ну і, пры наяўнасці, фотаздымкі. Але, мабыць, такі трывіяльны падыход застаецца ў мінулым — апошняя спроба стварыць партал аб знакамітых беларускіх постацях здзіўляе сваёй незвычайнасцю.

Гаворка ідзе пра сайт „Беларускія героі", які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://belarusianheroes.com**. Сваім выглядам ён нагадвае даволі папулярную расійскую сацыяльную сетку „ВКонтакте" (VK) і расповеды аб выдатных персанажах вядуцца нібыта ад іх уласнага імя. „Цяпер мы вельмі шмат часу бавім у розных сацыяльных сетках, праглядаем старонкі людзей, якія не вартыя таго, каб на іх марнавалі час. Дык чаму б не прысвяціць час людзям, якія вартыя гэтага? Уявіць інфармацыю пра герояў у цікавым выглядзе было адной з мэт праекта, але ідэя зрабіць гэта ў выглядзе сацыяльнай сеткі з'явілася толькі падчас распрацоўкі, спрадвечна мы пра гэта зусім не думалі. Чаму VK? Усё проста: карыстальнікам будзе інтуітыўна зразумела як карыстацца сайтам, таму што VK яны карыстаюцца кожны дзень", — распавядаюць уладальнікі сайта на старонцы „Пра нас". Выйсце на яе, як і на іншыя рубрыкі сайта, месціцца ўверсе цэлага выяўлення.

На гэтай жа старонцы ўладальнікі сайта тлумачаць мэту свайго праекта, якому ўжо пару гадоў. „Мы робім гэта не за грошы, у нас няма ніякіх палітычных мэт, мы проста робім тое, што нам падабаецца. Нас цікавяць людзі, якія не проста гарлапанілі на кожным куце «Жыве Беларусь!», а рэальна нешта рабілі для таго, каб Яна жыла. Мы можам параўноўваць свой лёс з іх лёсам, паглядзець, што ў нашым узросце яны ўжо шмат чаго дасягнулі, альбо нічога не дасягнулі і ў іх усё яшчэ наперадзе. Мы можам даведацца, што ніколі не позна змяніць сваё жыццё, што магчыма пачаць усё спачатку. Кожны з нас можа стаць героем незалежна ад узросту, полу, матэрыяльнага становішча і фізічнага стану. Трэба працаваць і думаць не толькі пра сябе, але і пра людзей. Як кажуць: «Працуй пільна — і тут будзе Вільня», — сцвярджаюць аўтары праекта.

Цікава, што свае прозвішчы яны чамусьці не раскрываюць, за выключэннем таго, што на здымку адной з асабістых старонак можна прачытаць пра нейкага Сільвестра Фядковіча — праграміста, які і з'яўляецца аўтарам дадзенага праекта.

На першай старонцы сайта, якая адначасова служыць стужкай навінных паведамленняў, месціцца карта месцаў нараджэння герояў віртуальнага расповеду. Варта прызнаць, што праца, якую правялі ўладальнікі партала, была даволі вялікай — колькасць прадстаўленых герояў сягае 56 асоб. Прынамсі, так пазначана ў аднайменнай рубрыцы. Там жа ідзе іх пералік з партрэтнымі фотаздымкамі і кароткім анонсным пазначэннем сферы дзейнасці кожнага.

Уладальнікі сайта настойліва прапануюць далучыцца да іх працы. Пра патрэбу ў гэтым вядзецца гаворка на старонцы „Кантакты". А на старонцы „Сябры" месціцца банэры тых сайтаў, з якімі „Беларускія героі" маюць партнёрскія адносіны.

Для таго, хто хоча стаць пастаянным карыстальнікам дадзенага сайта, даецца магчымасць зарэгістравацца, зрабіўшы гэта праз якую-небудзь сацыяльную сетку.

❖ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ




Першы беларускі прафесар геаграфіі



## 125 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Смоліча

Беларускі нацыянальна-дзяржаўны дзеяч БНР, вучоны ў галіне эканомікі, сельскай гаспадаркі, географ, картограф Аркадзь Смоліч нарадзіўся 29 верасня 1891 г. у вёсцы Бацэвічы (Клічаўскі раён). У 1905 г. скончыў Менскую духоўную семінарыю, потым Нова-Александрыйскі інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства ў Пулавах (Польшча), вучыўся ў Кіеўскім політэхнічным інстытуце. Да беларускага руху далучыўся ў 1910 г. яшчэ студэнтам, стаў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады, клуба „Беларуская хатка" ў Менску. У 1914 г. пісаў у часопісах „Раніца" і „Лучынка". З вясны 1917 г. — адзін з дзейных лідараў БСГ у Менску, рэдактар яе друкаванага органа — газеты „Грамада", актыўна друкаваўся сам.

У 1917 г. Смоліч быў абраны ў Беларускі Нацыянальны Камітэт. Цягам 1917-1920 гг. удзельнічаў практычна ва ўсіх акцыях, звязаных з вызначэннем лёсу Беларусі. У снежні 1917 г. — удзельнік Усебеларускага з'езда, які абвясціў у Беларусі дэмакратычна-рэспубліканскі лад. Як радны Беларускай Народнай Рэспублікі ён браў удзел у абвяшчэнні акту 25 Сакавіка. У першым урадзе (Народным Сакратарыяце) БНР Смоліч займаў пасаду сакратара асветы. Выязджаў з дыпламатычнай місіяй у Кіеў, Варшаву, Берлін. У лістападзе-снежні 1918 г. па даручэнні ўрада БНР Аркадзь Смоліч быў у Гродне. Пасля захопу Гродна польскімі войскамі пераехаў у Вільню. З лета 1919 г. — намеснік старшыні ўрада Антона Луцкевіча, адначасна міністр сельскай гаспадаркі БНР. Пасля захопу Беларусі савецкімі войскамі летам 1920 г. Смоліч пераехаў у Гродна, пэўны час працаваў аграномам.

У верасні 1920 г. Аркадзь Смоліч пераехаў у Вільню, дзе ўдзельнічаў у стварэнні ТБШ, быў яго першым старшынёй. Аднachасна працаваў над падручнікам па геаграфіі. У Вільні ён выдаў „Геаграфію Беларусі" — навуковы твор і жывы, пранікнёны аповед пра беларускую зямлю, яе прыроду, гаспадарку і народ. Праца атрымала шырокае грамадскае прызнанне, сталася незаменнай крыніцай радзімазнаўства.

У 1920-1922 гг. навуковец працуе выкладчыкам Віленскай беларускай гімназіі, чытае геаграфію на настаўніцкіх курсах. У жніўні 1922 г. урад БССР дазволіў Смолічу вярнуцца ў Менск і прызначыў яго загадчыкам планава-эканамічнага аддзела Наркамата земляробства БССР. З 1923 г. ён — дацэнт, прафесар і загадчык кафедры ў БДУ і Інбелкульце (з 1925 г. — намеснік яго старшыні, кіраўнік сельскагаспадарчай секцыі і камісіі па раянаванні БССР). Аркадзь Смоліч зрабіў вялікі ўнёсак у пераўтварэнне Інбелкульта ў Акадэмію навук, быў адным з аўтараў яе першага статута. У 1927 г. Смоліч стаў першым беларускім прафесарам геаграфіі.

У 1930 г. Смоліч у ліку ста з лішнім беларускіх навукоўцаў, грамадска-палітычных дзеячаў і пісьменнікаў быў арыштаваны па сфабрыкаванай справе „Саюзу вызвалення Беларусі". У красавіку 1931 г. пастановай калегіі ОГПУ высланы на 5 гадоў у г. Оса (Пермская вобласць, Расія), потым у г. Ішым Цюменскай вобласці. Пасля заканчэння тэрміну адміністрацыйнай высылкі ў 1935 г. вучоны жыў у Ішыме, працаваў у райкалгассаюзе, выкладаў геаграфію ў жывёлагадоўчым тэхнікуме, чытаў лекцыі на курсах удасканалення настаўнікаў. У жніўні 1935 г. вызвалены. Аднак у ноч з 17 на 18 чэрвеня 1937 г. зноў арыштаваны і неўзабаве прыгавораны да смяротнага пакарання. 17 чэрвеня 1938 г. расстраляны ў Омскай турме.

❖ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

ні інтэлекту. Адначасова сляпая вера, без глыбокага асэнсавання, якая не рухаецца ў паўсядзённым жыцці, мае малое значэнне. Праўдзівая рэлігійная практыка заключаецца ў інтэнсіўнай працы над сапраўднай духоўнай метамарфозай.

Рабін адначасова падкрэсліў, што любоў да іншых пачынаецца ў нас саміх. На яго думку, каб пакахаць другога чалавека, спачатку трэба пакахаць самога сябе. Тая любоў праяўляецца, між іншым, у працы над сабою, выкананні сваіх абавязкаў і жыцця ў адпаведнасці з Божымі законамі.

Тэму наколькі важная рэальная практыка, распачатую рабінам, працягнуў пастар Тамаш Віглаш. На яго думку, нездаровае стаўленне да іншых — адметных — гэта вынік невуцтва. — Мала таго, што мы не ажыццяўляем навук сваёй веры ў паўсядзённым жыцці, але маем схільнасці іх выкарыстоўваць, каб тлумачыць эгаістычную паставу. Здараецца, што ставімся да рэлігіі так, быццам бы яна была нашай уласнасцю, або робім з яе этыкет, які адрознівае нас ад іншых. Гэта не з'яўляецца добрым спосабам. Такім чынам, замест таго, каб ачысціцца з атруты сэрца і розуму навукай нашай рэлігіі, атручваем яе гэтым, што ў нас дрэннае.

На думку доктар сацыялогіі Дароты Місяюк, менавіта сустрэчы прадстаўнікоў розных рэлігій вучаць, што нягледзячы на дактрынальныя адрозненні, кожная дапамагае навучыцца і зразумець любоў:

— Усе рэлігіі вучаць любові, спагады, цярплівасці, памяркоўнасці, прабачэння і гэтак далей. І сапраўды могуць рэальна дапамагчы ў развіцці гэтых якасцей. Акрамя таго, прыклад, які мы атрымалі ад кожнага з заснавальнікаў гэтых рэлігій, ясна паказвае, што клопат пра іншых і цнатлівае жыццё вядзе да шчасця. Навучаючы, надавалі асаблівую ўвагу развіццю любові і спагады, а таксама неабходнасці адмовіцца ад эгаістычных жаданняў. Кожны з іх заклікаў нас ператварыць сэрца і розум. Незалежна ад таго, ці з'яўляемся веруючымі людзьмі ці не, усе яны, безумоўна, заслугоўваюць нашай найвышэйшай пашаны.

Канферэнцыю можна падвесці словамі рабіна, які зноў аднёсся да працы над самім сабою: «Калі мы лічым сябе рэлігійнымі людзьмі, але няма ў нас спачування і дысцыпліны, як можам патрабаваць гэтага ад іншых?». На яго думку, пакуль не пачынаем сур'ёзна практыкаваць навукі нашай уласнай рэлігіі, ніхто сур'ёзна не будзе ставіцца да нас. Практыка абазначае, між іншым, даванне добрага прыкладу шляхам падтрымоўвання гарманічных адносін з іншымі рэлігійнымі традыцыямі. Таму ўсе ўдзельнікі дыскусіі ў Цэнтры Людвіка Заменгофа жадалі сабе, каб гэта быў толькі пачатак супольных, і так блізкіх, міжканфесійных сустрэч.

❖Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Канцэрт
## з беларускай ноткай

18 верасня на пляцоўцы побач дома культуры «Калеяж» у Чаромсе адбыўся беларускі народны фэст. Арганізатарам было Беларускае грамадска-культурнае таварыства, а суарганізатарамі — Гмінны асяродак культуры і Гмінная ўправа. І хоць да каляндарнай восені заставалася некалькі дзён, натура не паскупілася на цеплыню сонечных праменяў. Стаяла цудоўнае надвор'е. Адно перыстыя воблакі цынкам час ад часу закрывалі яркае сонейка. Канцэрт на афвестках быў назначаны на 14 гадзін, але пачаўся чвэрць гадзіны пазней. Адкрылі фэст сакратар Гміннай управы Марыя Іванюк і намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Васіль Сегень. Марыя Іванюк ад імя войта прывітала гасцей, у тым ліку старшыню ГП БГКТ Яна Сычэўскага, дырэктара Гміннага асяродка культуры Барбару Кузуб-Самасюк і мастацкія калектывы: «Малое ГДК» з Гайнаўкі, «Хутар» з Гарадка, «Лайланд» з Беластока, «Рэха пушчы» з Гайнаўкі, «Куранты» з Бельска-Падляшскага і «Катрынку» з Высокага ў Беларусі.

— З горадам Высокае, — сказала сакратар Гміннай управы Марыя Іванюк, — ад шасці гадоў супрацоўнічаем у рамках памежнага праекта «Паляпшэнне трансграгранічнай сістэмы аховы асяроддзя гмін Чаромха і Высокае шляхам развіцця сантэхнічнай інфраструктуры». У выніку рэалізацыі праекта Чаромха атрымала 8,2 км каналізацыйнай сеткі, а горад Высокае — 17,7 км. Да каналізацыйнай сеткі падключыцца 551 жыхар Чаромхаўскай гміны і 2500 жыхароў Высокага. Гэтым самым палепшацца сацыяльна-бытавыя ўмовы жыцця насельніцтва ў прыгранічных рэгіёнах.

Васіль Сегень, узяўшы слова, падзякаваў суарганізатарам за запрашэнне, затым спаслаўся на юбілейныя святкаванні 60-годдзя БГКТ. Напомніў, што працу Таварыства ў распаўсюджванні народнай культуры, а таксама ў падтрымліванні нацыянальнай тоеснасці належна ацаніла Міністэрства культуры, прысвоіўшы арганізацыі медаль Заслужаны для культуры «Gloria Artis».

Палачку вядучага пераняла Юліта Сушч. Першымі на сцэну выклікала «Малое ГДК» (мастацкі кіраўнік Марта Грэдаль-Іванюк). Пасля прэзентацыі гурта пачаўся выступ. І панесліся песні па-над Чаромхай, беларускія, народныя: «Купальскі вяночак», «Белы снег», «Ой развівайся дубок», «Маміна сарочка». Група з шасці маладзенькіх прыгажунь у народных касцюмах звонкімі галасамі заваражыла публіку. Бурныя воплескі атрымаў гурт за песню «Вечна жывы Беларусь». Ды і пасля кожнай песні нясліся бурныя апладысменты.

Чарговым выступіў «Лайланд» Багдана Астапчука з Беластока. Гэты гурт не трэба было рэкамендаваць публіцы. Неадноўчы гасцяваў ён на чаромхаўскай сцэне. Выступаў на мінулагоднім беларускім фэсце. Зараз прэзентаваў пяць песень: «Залатыя хусты», «Дарма Ясю ходзіш», «Белая касыначка», «Вяне рута» і «Цёшча». Выступ быў успрыняты бурнымі апладысментамі. Паколькі канцэрт пачынаўся пры нешматлікай аўдыторыі, дык з кожнай хвілінай публікі прыбывала. Амаль усе сядзячыя месцы перад сцэнай былі заняты. Многія пераносілі крэслы і скрываліся ад сонца ў цянёк пад сцяной клуба. Іншыя заставаліся проста за агароджай на тратуары, пры вуліцы. А канцэрт прадаўжаўся.

Капэла «Хутар» з Гарадка пад кіраўніцтвам Генадзя Шэмета ўпершыню завітала ў Чаромху і сваім выступам пакарыла публіку багатым і разнастайным рэпертуарам. Музыканты не толькі бадзёра «рэзалі ад вуха па вуха», але і спявалі. На асаблівую ўвагу заслугоўвае дуэт Ірыны і Яна Карповічаў (сужонства). У іх выкананні прагучалі песні «Беларусачка», «Ты, залаты» (песня прысвечана кавалерам), «Баба Еўка, дзед Тамаш», «Грэшны кавалак неба» і «Полька беларуская». Гэты нумар найбольш спадабаўся публіцы. На авацыйныя «бісы» калектыў вымушаны быў выступіць двойчы. За першым разам выканаў «Польку», за другім — на развітанне — «Конік вараны".

Выхаду на сцэну чакалі чарговыя калектывы. Кожны з гуртоў прэзентаваў пяць твораў. «Рэха пушчы» выканала «А ў садзе рэчанька», «Што за месяц», «Зязюля варажбітка», «Бярозка» і «Чарка на пасашок». Мужчынскі хор «Куранты» з Бельска-Падляшскага — «Будзь здаровы гаспадар», «Мая маленькая Айчына», «Суніцы», «Падмаскоўныя вечара» і «Не вер каню ў дарозе». Кіраўніком абодвух калектываў з'яўляецца Аліна Негярэвіч. З «Курантамі» выступіла яна сола з песняй «Падмаскоўныя вечара». На чаромхаўскай сцэне абодва гурты прэзентаваліся раней. За багаты рэпертуар і майстэрскае выкананне песень артысты як раней, так як і зараз атрымалі ад публікі «вялікія бравы» і словы прызнання. Гэта ж самае тычыцца і «Катрынкі» з Высокага пад кіраўніцтвам Ларысы Лізякіны. Выступ пачаўся кампазіцыяй танцавальнай групы «Зялёная рошча», затым былі песні «Хлопцы-рыбалоўцы», «Беларусь чароўная», «Зязюля ўсё куе», «Былі ў мяне ў каморы грошы», «Маруся бузі дай» (на польскай мове) і закончыўся развітальнай песняй «Мы вам жадаем». Калектыў «Катрынка» неадноўчы выступаў на чаромхаўскіх імпрэзах ды ў суседніх Кляшчэлях. Заўжды сустракаўся з сардэчным прыёмам. Лічу, што «Катрынка» з Высокага не раз яшчэ будзе гасцяваць на канцэртах у рамках памежнага супрацоўніцтва.

❖Уладзімір СІДАРУК

# 02.10 — 08.10

**(22.03. — 20.04.)** У сямейных у пачатку тыдня могуць рэзка павялічыцца выдаткі на дзяцей. Абыходзь бокам крамы з дзіцячымі цацкамі. Таксама не лепшы час для куплі падарунка для каханага чалавека. Грошай выдаткуеш шмат, а ў выбары рызыкуеш памыліцца. Не варта цяпер абмяркоўваць фінансавыя пытанні: гэта можа стаць падставай для канфлікту. Серада — удалы дзень для ўрэгулявання любых папяровых і юрыдычных пытанняў.

**(21.04. — 21.05.)** У пачатку тыдня асноўныя праблемы могуць быць звязаны з адносінамі ў сям'і, хатнімі клопатамі. Праводзіць у гэтыя дні генеральную ўборку або рамонт вельмі непажадана. Акуратней абыходзься з бытавой тэхнікай, бо можа зламацца з-за перападаў у электрасетцы. Сярэдзіна і другая палова тыдня складуцца спрыяльна як для бягучых спраў, так і для лячэбных працэдур.

**(22.05. — 22.06.)** На пачатку тыдня не плануй ніякіх сустрэч і скарацi кантакты з суседзямі, знаёмымі і сваякамі. Зараз будзеш схільны да агрэсіўнага стылю зносін. Нават калі пастараешся быць прыстойным і тактычным, будзеш гатовы ў любы момант сарвацца ў атаку. Навучыся стрымліваць свае парывы і не спяшайся выказваць уголас свае думкі. Сярэдзіна і другая палова тыдня пройдуць больш гарманічна.

**(23.06. — 23.07.)** У пачатку тыдня трэба будзе шмат працаваць, аднак грошай ад гэтага наўрад ці стане больш. Спачатку выраўняй баланс паміж даходамі і расходамі. Не выключаны матэрыяльныя страты з-за паломкі бытавой тэхнікі. Магчымая спрэчка з-за грошай. Пагавары са старэйшымі сваякамі і спакойна разбярыся ў адносінах, вырашы ўсе непаразуменні.

**(24.07. — 23.08.)** У пачатку тыдня лепш устрымлівацца ад ініцыятыў і стрымаць свае амбіцыі. Часам бывае, што чым мацней чагосьці хочацца і чым больш намаганняў прыкладаецца для гэтага, тым далей і недаступней становіцца запаветная мэта. Пачаўшы дамагацца свайго, сутыкнешся з мноствам перашкод, асабліва ў адносінах з начальствам. З серады па суботу сітуацыя зменіцца да лепшага.

**(24.08. — 23.09.)** У пачатку тыдня будзеш абмежаваны ў дзеяннях з-за пагаршэння самаадчування. Цяпер не самы спрыяльны час для смелых ініцыятыў. Спроба дзейнічаць абыходныя, часам незаконныя шляхі можа прывесці да ягчэ больших непрыемнасцей. Падтрымлівай сваю рэпутацыю. З серады да суботы ў тваім распараджэнні могуць з'явіцца грошы. Пятніца і субота — ідэальныя дні для куплі ювелірных упрыгожанняў і моднай вопраткі.

**(24.09. — 23.10.)** У пачатку тыдня ўнутрана прыгатуй сябе да таго, што пра стабільнасць і спакой пакуль прыйдзецца забыцца. Могуць адбыцца непрадказальныя падзеі, якія ў адзін момант памяняюць сітуацыю. Лепш устрымацца ад актыўных сяброўскіх кантактаў. У пятніцу і суботу твае эстэтычнае чуццё і такт беспамылкова пакажуць, як будаваць адносіны з каханым чалавекам.

**(24.10. — 22.11.)** Давядзецца сутыкнуцца з нейкімі вонкавымі перашкодамі, якія не дазволяць табе дзейнічаць самастойна. Хутчэй за ўсё, старэйшы сваяк ці каханы чалавек схоча пазбавіць цябе ініцыятывы і вырашаць любыя справы за цябе. З серады вастрыня праблем пойдзе на спад, аж да канца тыдня наступіць спрыяльны час. Пачні дзейсныя меры па ўмацаванні здароўя.

**(23.11. — 22.12.)** Пачатак тыдня даволі бурны. Перад табою будзе стаяць задача па рашэнні мноства пытанняў. Твае сілы не бязмежныя, рызыкуеш большую частку спраў так і пакінуць незавершанымі. Паспрабуй выконваць некалькі спраў у паралельным рэжыме. Аднак такое распыленне сіл наўрад ці зробіць эфект. З серады да суботы пачнецца больш цікавае і вясёлае жыццё.

**(23.12. — 20.01.)** У пачатку тыдня можа ўзнікнуць моцнае напружанне ў адносінах з каханым чалавекам. Узмоцняцца сексуальныя патрэбы. Але твае жаданні могуць не супадаць з жаданнямі другой палавінкі. З серады шматлікія праблемы ўдасца вырашыць мякка, зможаш пераключыцца на іншыя тэмы.

**(21.01. — 19.02.)** У Вадалеяў у пары ў пачатку тыдня можа ўзмацніцца напружанасць у сямейных адносінах. Паспрабуй у панядзелак і аўторак устрымацца ад любых вострых размоў з членамі сям'і. Тое ж самае можа адбывацца ў дзелавых адносінах. З серады напружанне само сабой спадзе, будуць цябе больш цікавіць іншыя тэмы.

**(20.02. — 21.03.)** У пачатку тыдня давядзецца шмат працаваць, аднак беражы сваё здароўе, не перанапружвайся. Твая праца можа быць спалучана з мноствам цяжкасцей, няўвязак, перашкод. У імкненні хутчэй вырашыць усе справы, можаш часта дапускаць памылкі і моцнае напружанне будзе адчуваць твая нервовая сістэма. Мусіш адпачыць! Вельмі насычаныя зносіны з навакольнымі, што таксама забярэ нямала сіл і часу. Разумна будзе абмежаваць кантакты.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

Адгаданка Адгаданка

1. нямецкі ланд з Мюнхенам, 2. землеапрацоўчая прылада ў выглядзе рамы з вертыкальнымі зубамі, 3. „егіпецкая" опера Вердзі, 4. лайдак, гультай, 5. год, месяц і дзень нейкай падзеі, 6. зневажальная насмешка над некім, 7. змацоўвае аглоблі з хамутом, 8. тэатральная танцоўшчыца, 9. вялікая пасудзіна для вадкасцей, 10. напрыклад, Гордзіеў, 11. атрута.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаны дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 37 нумара**

Лес, сум, указ, ява, яда, ясак.

Рашэнне: **Усякаму свая сляза едка**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# У палескай глыбінцы (56)


На возеры Любязь

У прыпрыпяцкай Любязі прамовіла паслядоўнасць вандроўкі. Ад пачатку мяне суправаджала легенда пра затопленыя гарады і цэрквы. Яны час ад часу выныраліся з-пад вады ў выглядзе прывідаў, гукаў ці матэрыяльных знаходак як амулеты, іконы, фрагменты драўляных суднаў, крыжы ці літургічныя келіхі. Іх голас у непісьменным краявідзе грымеў абарванай драмай жыцця, што не дачакаўшы працягу ў рэальным жыцці пасялялася ў іншым вымярэнні, то-бок дзесьці ў міфічным царстве пад глыбокай вадой, пад асобным, справядлівым небам. Усе мае азёры Свіцязь, Святое, Пачаеўскае, Ільбле хавалі ў тонях часцінкі залатой славы.

Сцяпан Адамавіч Аласюк, настаўнік гісторыі з Любашова, папоўніў мае падарожныя здагадкі. Кожны народ стварае міф пра залаты век. Для Палесся гэта часы Пінска-Тураўскага княства, у якім значную ролю сыгралі вікінгі. Іх панаванне адлюстравалася ў легендах пра залатыя гарады ды ў назовах прыпрыпяцкіх селішчаў — Вэтлы, Лэбэты, Нобель, Ольбле, Нівель...

Адным з варажскіх цэнтраў Сцяпан Аласюк лічыў вядомы ў XI стагоддзі Любязь. Гарадзішча знаходзілася на востраве-ладдзіне, пасярод велічнага возера і выконвала ролю гандлёвай заставы на Прыпяці. Стары назоў селішча — Лэбэты. Старажылы па сённяшні дзень кажуць што од *Лэбэшова до Лэбэтов* (з Любашова ў Лебязь) дзве гадзіны дарогі. У якасці прыкладу, які меў даказаць скандынаўскія сляды, настаўнік назваў яшчэ эндэмічнае прозвішча, якое выступае ў прыпрыпяцкіх сёлах. Гучыць яно Шклёда.

У Любязі-Лэбэтах, куды я завандравала пасля трывожнага блукання па незнаёмым лесе, чакала мяне сапраўдная гісторыя пра затопленую царкву. Да гэтай пары аповед падавалі паўшэптам, у давераным крузе. Расказ не выйшаў па-за межы сяла. Мне пашанцавала больш чым трэба. З гісторыяй сяла пазнаёміла мясцовая настаўніца Наталля Шклёда, у прыватнасці ўнучка беларуса з падбеластоцкіх Парослаў. Усё, дзякуючы падказкам зычлівых людзей.

* * *

Найгорш, калі заблудзішся ў бязлюдным месцы. Па дарозе ў Любязь я рашыла наведаць турбазу Прыпяцкага нацыянальнага парку. Спачатку ўсё здавалася простым. У Любашове я села ў маршрутку ды папрасіла ў шафёра, каб спыніўся ля сядзібы парку. Дзесяць хвілін пазней я была на месцы. Ну, прыблізна на месцы. У турбазу вяла пясчаная дарога праз лес. Цягам апошняга года я безупынна думала, каб патрапіць у гэтае месца. Штосьці вабіла, прыцягвала. І зараз, калі з кожным крокам набліжалася мэта, я не ведала: цешыцца мне, ці плакаць? Перад вачыма паказаліся дзве вясковыя сядзібы, аброслыя дзікім лабадзеннем. Я павярнула на панадворак з аздобнай брамай. На стэндзе парку красавалася балотнае птаства: чаплі, буслы, канюк, арлан-белахвост. У глыбі панадворка тулілася драўляная хатка з блакітнымі вокнамі і прашклёнай верандай. Усё навокал было закрыта. Нідзе жывой душы. Ну, хоць ты плач! Я прысела на тоўстай лаве і думала, што рабіць, у які бок павярнуць. Ісці абы-куды, па нязведаным лесе, рызыкоўна. Як на злосць успомніліся ваўкі, пра якіх гаварылі цёткі ў маршрутцы. Апошнім часам у навакольныя сёлы сталі забягаць ваўкі ад Чарнобыля. „Такія ростам у цяля", — даказвалі жанчыны. Вабіла іх падла, якое сяляне выкідалі ў лес і прыдарожныя равы.

А там... што мае быць, то будзе. Замест вярнуцца ў вядомае месца, да знаёмай дарогі, я пайшла лесам у паўночным напрамку. Сказаць, што неслі ў той бок ногі, мала. Мяне цягнула магнітам. Дзвесце метраў далей лес пацямнеў. Папраўдзе гэта быў стары, здзічэлы парк, які ацалеў ад сядзібы Чарнецкіх. Тут жа адкрылася вулачка з пахіленымі аборамі з тоўстых балясаў. Да дрэва быў прыбіты ўказальнік: *Вуліца Дворская*.


Карайбскія матывы на Лябязкім пляжы


Турбаза пад замком

Назоў аднак збіваў з панталыку. Зруйнаваны будынак двара пасля Першай сусветнай вайны быў распрададзены на цэглы. Забудовы, узведзеныя талакой у шасцідзясятыя гады XX стагоддзя, прыналежалі любязскаму калгасу. Кожны селянін атрымаў загад разабраць адну сцяну і аддаць на калгасныя аборы, аўчарні, куратнікі, цялятнікі і свінарнікі. Зараз каструбаты, напалову расцягнуты комплекс, палохаў сваім няшчасным выглядам. Страшны двор — не скажаш інакш. І гэта канец жахлівых атракцыёнаў. У мой бок ляцелі два дзікія сабакі, адзін ростам у цяля.

* * *

Я ішла з дрыжачым сэрцам праз цёмны лес і ўсё здзіўлялася, што яшчэ іду. Магчыма, усе гэтыя прыгоды былі на тое, каб падрыхтавацца на сустрэчу з цудам.

Цёмны лес з дзікімі сабакамі мінуў як кашмарны сон. Нечаканая перамена антуражу і настрою здавалася магічнай штуковінай. Быццам хтось рассунуў цёмныя заслоны і паклікаў у светлы абшар.

Я тузанула сябе ў руку, каб праверыць ці я яшчэ на зямлі.

Слава Богу — усё нармальна.

Кончыўся лес і адкрылася панарама на блакітна-шэрае возера, якое цягнулася за небакрай. На сярэдзіне высіліся тры астравы. На адным з іх археолагі знайшлі сляды пасяленняў эпохі позняга палеаліту. На іншым захаваўся насып і фрагменты частакола з шостага стагоддзя нашай эры. Верагодна, там знаходзіўся аднатаваны летапісцамі ў XI стагоддзі град Лебеж (Лэбэты), гандлёвая застава па вадзяным шляху на Прыпяці.

Мабыць, з высі возера напамінала салярны амулет, павязаны на блакітнай стужцы Прыпяці, якая спакойна перапльвала праз вадаём. Што тут дадаць? Я адчувала сябе бязмежна шчаслівай. Прыгожасць месца ажно балела. Дзікі сабака з'еў ужо кінуты мною бутэрброд і бег сабе збоку. Другі, той ростам у цяля, схапіў на ляту шакаладку з маіх прыпасаў і павалокся дзесьці ў бок калгасных будынкаў.

Па белым, пясчаным пляжы, якім я дабіралася да сяла, ганяліся белабрысыя хлапчукі. Спавівала іх дзікая свабода і радасць ад купання ў цёплым, спакойным возеры. Ад узбярэжжа даносіўся пах квітнеючага чабару і сасновай жывіцы. Але глядзець у той бок не надта хацелася, усё з-за калгаснай індустрыі, якая, быццам кашмарны прывід, цягнулася ўзбярэжжам. Абдзертыя з цэглы шкілеты цялятнікаў, іржавая вадакачка, адрубленыя пляшкі з-пад гарэлкі і пепсі, стары чобат...

Урэшце, сярод вясковых забудоў, на высокім беразе паказалася царква з бляшанымі купаламі. Узвялі яе ў 1991 годзе на месцы затопленага храма. Як большасць палескіх парафій, прыналежала Маскоўскаму патрыярхату. На царкоўным пляцы я пабачыла намагільную пліту з каменю, застраглую ў зямлі. Гэта быў канкрэтны, матэрыяльны след ад даваеннай, ужо легендарнай будоўлі, якой знішчэнне спалохала народ.

Пакручастай, пясчанай вулачкай я дабралася ў цэнтр сяла. Там чакаў мяне новы сюрпрыз. Перад вачыма стаяў шыкоўны будынак гатэлю з вялікім патыо. Вусаты казак на білбордзе запрашаў у рэстаран на хатнія і недарагія абеды.

На добрую справу, стаяў ён дзе трэба і не павінен здзіўляць. Якраз праз Любязь ідзе міжнародная траса з Украіны ў Беларусь, адсюль дваццаць кіламетраў у беларускі Іванаў, праслаўлены мастаком Напалеонам Ордам і езуіцкім пакутнікам Баболем...

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960